РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# КУЛЬТУРА

Кошт 300 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №29 (138), 20 ЛІПЕНЯ 1994 ГОДА.

СЁННЯ:





## ВЯРТАННЕ ПЕСНІ

*Ансамблю "Песняры"*

Аж хістае сцены палацаў
Гучных воплескаў вадаспад,
Калі хлопцы
"Скрыпяць мае лапці..."
Запяюць на сучасны лад.

Сэрцу радасна і балесна
Ад таго,
як прыходзіш зноў
Ты, мая беларуская песня,
Да сваіх і чужых сыноў.

Дзе тыя выжарыны,
Дзе тыя прашчуры,
Што цябе,
як жаваранка,
Берaглі і лашчылі,
У туманы хуталі,
Грэлі пад пахаю,
Ціхую-ціхуткую,
Верасам прапахлую?..

Як крынічка,
праз камні і наледзі
Ты прабілася з роднай зямлі,
І ніякія беды і нелюдзі
Замуціць цябе не змаглі.

Ты ж мая адзіная,
Тыя ж мая ніўная,
Ты ж мая радзінная,
Ты ж мая жніўная,
Ты ж мая вясельная,
Ты ж мая вясенняя,
Ты ж мая нязваная,
Ты ж мая нязнаная,
Да грудзей прытуленая —
Матуліна...

Спявайце ж, хлопцы,
спявайце!..

**Генадзь БУРАЎКІН**

Даўно, ледзь не ў першыя гады ўзлёту ансамбля, быў напісаны гэты верш. Але і сёння ён актуальны, і сёння ён кранае душу. З юбілеем вас, "Песняры"!

## МЫ ВЫРАСЛІ НА ГЭТЫХ ПЕСНЯХ

Вакальна-інструментальнаму ансамблю "Песняры" сёлета ўжо 25 гадоў. Мне вельмі падабаюцца чароўныя, меладычныя песні, якія спяваюць яго салісты сёння, але асабліва тыя, якія былі створаны калектывам ў мінулыя гады і якія выконвалі Уладзіслаў Місевіч, Лявон Барткевіч, Уладзімір Мулявін і іншыя маладыя, прыгожыя, прывабныя сваёй беларускасцю і шчырай душой салісты ансамбля. Многія песні, калі я чую іх сёння, нагадваюць мне дзяцінства. Я, па сутнасці, вырасла на гэтых песнях. Памятаю, калі мне было яшчэ шэсць гадоў, "Песняры" прыязджалі да нас у Полацк па запрашэнні самадзейнага кампазітара Мікалая Пятрэнкі, вядомага найбольш сваёй песняй на словы Веры Вярбы "Ручнікі". Выступленне адбывалася ў нашым квартале на агітпляцоўцы. Тады для нас, жыхароў Полацка, гэта было незабыўнае свята.

Я дасюль памятаю той цёплы летні вечар і песні, песні... Яны гучаць ужо 25 гадоў, і ў тым, што не ўсё яшчэ памерла ў душы беларуса са свайго роднага, са сваёй спадчыны, ёсць вялікая заслуга нашых цудоўных "Песняроў" і іх кіраўніка, народнага артыста СССР Уладзіміра Мулявіна.

**Вольга КАРЗУБ**

г.Полацк



Фота Генадзя ЖЫНКОВА

ПАЛІТЫЧНЫ БАРОМЕТР

# АД СТУКУ ЗАКЛАДВАЕ ВУШЫ...
## або Тыдзень з Прэзідэнтам

Геніяльныя музыканты чуюць поступ гісторыі і ствараюць свае творы з яе дысанансаў. Просты, радавы чытач не дабіраецца да глыбіняў Гармоніі, ён не аналізуе, з чаго складаецца сённяшняя додэкафонія: з хрыпаў паміраючага гімна "Ойча наш Кебіч", з фанфарных гукаў перамогі новай каманды, з дрыжыкаў карумпаванага чыноўніцтва ці працяглых уздыхаў дэмакратаў. Ён адчувае — паветра вібрыруе. Ён бачыць: бульба сохне ў градах, нявыспелы ячмень звоніць няпоўнымі каласкамі. Ды што нам — зараз пальецца з Расіі, зажывём! І рука сама цягнецца да яе, запаветнай... І тут жа сутаргава торгаецца назад: перадвыбарныя пагрозы прэм'ера збываюцца. "Запаветная" падаражэла ажно ў тры разы. Прэзідэнт хмурыцца — у бюджэце пуста, без падняцця цэнаў на хлеб не абыдзешся. Але хлеб — другаснае, а вось святкаваць перамогу без Яе...

Цікава: рыхтаваў прэм'ер гэтую бомбу загадзя, як частку стратэгічнага плана "Прагаласавалі за Лукашэнку — атрымайце!", ці ўсё роўна збіраўся кідаць яе ў народ праз тыдзень і свайго выбрання: "З'ясцё, нікуды не дзенецеся!"?

Гарэлка — гэта вам не лялька Барбі і нават не папера! Гэта — палітыка. Нездарма ж, калі ўпершыню падвысілі цэны на цукар, фальклор быў ласкавы, амаль лагодны:

*Дзядзя Міша, цёця Рая,*
*Дайце цукру нам для чая!*

А вось калі было першае падвышэнне кошту гарэлкі з 2 руб. 87 кап. (фантастычныя цэны!), то нават ў застыглыя брэжнеўскія часы ў частушках гучала пагроза:

*А гарэлку мы папросім,*
*Нават калі будзе восем!*
*Перадайце Ільічу —*
*Нам і дзесяць па плячу!*
*А як будзе больш,*
*Будзе тое, што ў Польшчы!*

Праўда, з таго часу і "Салідарнасць", і ўсё астатняе здаецца цацкамі ў параўнанні з сённяшнім. Але... першыя цёмныя плямы Будучага ляглі на белакіпенную тогу Прэзідэнта, першыя жаўтаватыя грабеньчыкі народнага незадавальнення закружыліся ля ягоных моцных ног. Ну, вядома, моцных — колькі разоў узыходзіў ён на прыступкі парламента, несучы, як Мікула Селянінавіч, агромністы груз выкрывальніцкіх фактаў, прозвішчаў, лічбаў. Чаго толькі не было ў яго торбе — мільёны даляраў, перапраўленых за межы Беларусі, хабары за нафту... нават цвікі з дачы Шушкевіча... Цяпер у ягонай торбе — Беларусь, і з ёю за плячыма вядзе ён свае першыя перамовы, прымае салодкі кактэйль улады. У ім вітанне ад Клінтана, надзея на сустрэчу з Ельцыным, усмешкі дэпутатаў, якія апладзіравалі яму ў Дзярждуме, куды тыя ж нястомныя ногі насілі яго ў бурлівым парыве братэрскай любові...

А што браты? Брацкая прэса ад стрыманых намёкаў пераходзіць да здзеклівых філіпік у адрас назойлівага "менцага", які на нешта спадзяецца, а рабіць не хоча. Любоў любоўю, а есці трэба і закаханым. У апошнім нядзельным аглядзе каментатар каменціруе белазубую ўсмешку нашага Прэзідэнта заўвагай, што ён жа "кіраўнік адной з самых бедных краін СНД", а ліпеньскія "Аргументы и факты" пішуць наступнае: "Такім чынам, расіянам прапаноўваецца: ахвяраваць сваёй работай, стосам грошай, рэсурсамі, атрымаўшы пры гэтым да сваіх банкрутаў чужыя неэфектыўныя прадпрыемствы і мільёны новых "суайчыннікаў", якім са сваёй кішэні трэба будзе даплачваць дзевяць дзесятых зарплаты. Пры гэтым яны будуць будаваць сацыялізм і ўспамінаць, як "імперыялістычная Расія" ў чарговы раз знішчыла іх "незалежнасць". Калі мы зліваліся ў адзіным казарменным храпе, немэтазгодна было лічыць, хто каму і колькі павінен. Але калі ўжо разышліся, падзяліўшы маёмасць, дык кожны мае права на ўласны інтарэс".

Што тут запярэчыш? Расіяне правільна гавораць аб "уласных інтарэсах". І мы, калі "разыходзіліся", не былі самай беднай краінай СНД. Калі б мы ўзяліся за рэформы, то сёння... Не, не трэба труціць сябе прагнозамі, наша грамадства добра ведала, што будзе. Пра гэта крыкам крычаў БНФ.

Дарэчы, артыкул, з якога прыведзена цытата, называецца: "Стучат. Открыть ли дверь?"

Правільна называецца. "Мы" стукаць пачалі з самага пачатку, калі не ведалі, што рабіць з незалежнасцю, і верылі, што ўсё вернецца. "Там" таксама верылі і адгукаліся. Можна сказаць, мы перастукваліся. Але "з таго боку" стук рабіўся ўсё слабейшым — рабілі справу, ішлі наперад. Мы ж бралі крэдыты, праядалі іх, наш прэм'ер абяцаў, абяцаў, абяцаў... і стукаў што сілы. І мы глядзелі на яго дзянні як зачараваныя — нехта ж сапраўды адклікаецца? Даюць нафту, грошы — жывём, браткі!

Дажыліся. Бадзёры стук першага Прэзідэнта (на жаль, далёка не першага просьбіта) наўрад ці выклікае там аптымізм. Там бы разабрацца самім. Праблемаў досыць. Ледзь ліпіць грамадзянская згода, расце беспрацоўе. Павесіць сабе на шыю Беларусь, якая сама вешаецца на тую шыю і прытым яшчэ нешта вякае пра незалежны банк і ўвогуле пра незалежнасць, неяк мулка.

Што ж застаецца рабіць новай уладзе?

Альбо заткнуць кляпам раты тых, каму сапраўды баліць за нашу радзіму і хто вось ужо некалькі гадоў (гаворыць? галосіць?) аб сваім самастойным шляху і сваіх пошуках — і вешацца на Шыю, абхапіўшы яе абедзвюма і заплюшчыўшы вочы ад сораму за ўласную бездапаможнасць.

Або азірнуцца вакол і ўбачыць суседзяў, якія караскаюцца па нялёгкім шляху посткамуністычнай гісторыі і глядзяць наперад, а не заломваюць рукі ў няўсцешным плачы па мінулым і не спрабуюць сілай уломвацца ў чужыя дзверы, тым больш калі іх зачыняюць і бразгаюць ключамі.

Можа, перастанем стукацца — рукамі, галавой і скарыстаем іх (і рукі, і галаву) па іх прамым прызначэнні?!

**В.М.**

# "ЗВАНІЦЕ ЛЕПЕЙ ДА НАШАГА ЎЛАДЫКІ"

Так азваўся на званок нашага карэспандэнта начальнік Магілёўскага ўпраўлення культуры Міхаіл Дарашкоў, якога мы папрасілі расказаць аб падрабязнасцях Другога Міжнароднага хрысціянскага фестывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа". Спачатку Міхаіл Рыгоравіч гаварыў у духу лепшых традыцый мінулага, не гаварыў, а адгаворваўся: "Ну, вы ж самі разумееце, чаму я не хачу гаварыць". З яго цьмяных тлумачэнняў можна было зразумець адно: гэты фестываль праводзіла "сістэма касцёла", а "праваслаўная царква супраць". Аднак жа ў канцы нашай размовы высветлілася, што гарадскі аддзел культуры прыняў удзел у фестывалі, а абласное ўпраўленне не пярэчыла таму, каб фестываль адбываўся у Палацы культуры ВА "Хімвалакно".

А нам здавалася, што культура павінна арыентавацца на ўсе рэлігіі, якія існуюць на Беларусі, беручы ў іх самае лепшае — духоўнасць, боскае святло, высокае натхненне рэлігійных спеваў...

**Наш кар.**

# "АРМІЯ МАЯ" — І НАША

10 ліпеня ў Цэнтральным Доме афіцэраў адбыўся заключны тур І Рэспубліканскага конкурсу ваеннапатрыятычнай песні, прысвечанага 50-годдзю вызвалення Беларусі. Прафесійнае журы на чале з кампазітарам Валерыем Івановым і гледачы — салдаты беларускага войска — мусілі выбраць з пятнаццаці песень — фіналістаў найбольш патрыятычныя і мілагучныя.

Арганізатары імпрэзы паклапаціліся аб тым, каб яна запомнілася салдатам як сапраўднае свята. Падчас антракту ў вестыбюлі, абцягнутым маскіровачнымі сеткамі, вакальна-інструментальны ансамбль спяваў рамантычныя песні пра вайсковую службу і пра каханых дзяўчат. А побач праводзіліся шматлікія спаборніцтвы паміж юнакамі-салдатамі (напрыклад, хто больш разоў адцісне цца ад падлогі, хто хутчэй распранецца і хто лепш памятае табліцу множання).

У конкурсную праграму, якую агучваў ансамбль песні і танца Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь, былі ўключаны творы і маладых, і добра вядомых кампазітараў. Адзначым, што большасць песень выконвалася на дзяржаўнай мове, але ў лаўрэаты патрапілі, што можна было прадбачыць, выключна песні з рускамоўнымі тэкстамі, напісаныя майстрамі беларускай савецкай эстрады.

Тры беларускамоўныя песні журы ўзнагародзіла спецыяльнымі прызамі. Гэта прысвечаная юбілею вызвалення песня Э.Казачкова на словы М.Ясеня "Гарачы ліпень", марш А.Чыркуна на словы С.Панізніка "Беларускае войска" і песня з даволі складанай, як мне падалося, мелодыяй Р.Белага на словы П.Ліпая "Партызанскія абеліскі". Дарэчы, выканаўцу дзвюх з іх — Леаніда Нікольскага — журы прызнала лепшым салістам на гэтым конкурсе. Прыемнае ўражанне пакінулі ў мяне (шкада, што не ў журы) яшчэ два творы — прыгожы марш "Ускрэсні, Беларусь" (музыка і словы А.Жамойціна) і жартаўлівая песня "Гэй, у лесе пры даліне" М.Яцкова на словы Янкі Купалы.

ІІІ прэмію за песню "Буйніцкае поле" на словы М.Ясеня (на думку многіх слухачоў, лепшую з усіх трох) атрымаў кампазітар Л.Захлеўны. Дарэчы, гэты журботны вальс спяваў народны артыст Беларусі В.Вуячыч. Лаўрэатам ІІ прэміі журы абрала бадзёры марш Э.Ханка на словы Г.Сакалоўскага "Армія мая!". Спяваў яе сам Ханок, патлумачыўшы, што саліст-вайсковец дзесьці падвярнуў нагу і па эстэтычных меркаваннях не можа ў гіпсе спяваць страявую песню.

Нарэшце, пераможцам конкурсу і лаўрэатам І прэміі сталася песня-роздум І.Лучанка "Калі не будзе грамадзянскай вайны". Дарэчы, яна ж атрымала спецпрыз ад Міністэрства абароны, а аўтар тэксту, франтавік М.Ясень, — прыз ад Беларускага фонду культуры.

Як слухачы, так і журы асобна адзначылі яшчэ адну песню — пранізлівую "Малітву матулі" паводле вядомага верша С.Ясеніна. Аўтара музыкі — С.Сугаку — журы ўзнагародзіла заахвочвальнай прэміяй, а прыз сімпатый гледачоў салдаты, зразумела, аддалі яе выканаўцы, адзінай спявачцы на конкурсе Алене Балдзінай.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# ПАДАРУНАК — ЗА ДВА МІЛЬЯРДЫ

Каб удакладніць інфармацыю ў "Народнай газеце" за 15 ліпеня аб тым, што Беларусь у выніку правядзення пленэру па жывапісе імя М.Шагала набыла карціны больш як пяцідзесяці славутых замежных мастакоў, намеснік міністра культуры і друку Уладзімір Рылатка паведаміў "Культуры", што ўсе гэтыя творы мастацтва былі падораныя Віцебску самімі мастакамі. Нават пры дапамозе такіх банкаў, як "Беларусь", "Знешэканамбанк" і Віцебскі "Віткамбанк", што выступілі фундатарамі, наўрад ці змагла б Беларусь набыць карціны Шэмякіна ці Заборава, іншых замежных майстроў жывапісу, бо агульны кошт карцін сягае болей за 2 мільярды рублёў.

Славутыя землякі, падобныя Шагалу, — не толькі гонар для кожнай зямлі, але і частка яе нацыянальнага багацця — хіба не так, спадарства?

# ДНІ КУЛЬТУРЫ КРАСНАПОЛЬШЧЫНЫ Ў ОРШЫ

У чэрвені адбыліся творчыя сустрэчы актыву работнікаў культуры Краснапольскага раёна з калектывамі работнікаў культуры, удзельнікамі мастацкай самадзейнасці горада Оршы і Аршанскага раёна Віцебскай вобласці.

Паездка была арганізавана Міністэрствам культуры і друку Рэспублікі Беларусь сумесна з праўленнем навукова-вытворчага аб'яднання "Белэнергапрам", старшыня якога Аляксандр Аніскевіч згадзіўся ў сённяшняй нялёгкай сітуацыі фінансаваць выдаткі на гэтую акцыю. Праграма чатырохдзённага знаходжання дэлегацыі Краснапольшчыны ў Аршанскім раёне была рознабаковай. У ёй прадугледжваліся знаёмства з Оршай і Аршанскім раёнам, яе кіраўніцтвам, наведванне фірмы "Світанак", музеяў К.Заслонава, Я.Купалы (у вёсцы Ляўкі), музея гісторыі, музея лакаматыўнага дэпо і іншых устаноў.

Дзякуючы дэталёвай прадуманасці запланаванага, умеламу і дакладнаму кіраўніцтву з боку загадчыка аддзела культуры В.Сідняковай, намесніка старшыні гарвыканкама А.Калугі, намесніка старшыні райвыканкама Н.Дудалева, загадчыцы аддзела культуры Аршанскага райвыканкама Л.Лагуновай праграма была выканана.

Асаблівае ўражанне засталося ад сустрэчы з работнікамі культуры горада Оршы і Аршанскага раёна. Нам было прапанавана пазнаёміцца з сістэмай развіцця культуры ў горадзе і раёне, мы ўбачылі выступленне калектыву выкладчыкаў і вучняў школы мастацтваў № 1, Зубаўскага народнага хора, харэаграфічнага ансамбля Палаца культуры льнокамбіната, народнага тэатра Дома культуры чыгуначнікаў.

Работнікі культуры Краснапольшчыны дзяліліся з калегамі сваім вопытам работы аб народным тэатры, якому споўнілася 75 гадоў у мінулым годзе, аб гісторыка-этнаграфічным музеі (сёлета 26 красавіка тут была адкрыта зала "Боль Чарнобыля").

У нашай паездцы, якую мы назвалі "Дні культуры Краснапольшчыны ў Оршы," бралі ўдзел прадстаўнікі ад усіх арганізацый культуры нашага раёна: Н.Разгона, Л.Зырын, Г.Саламонава, А.Касценка, Г.Кулікова, Ю.Падалякін — прадстаўнікі цэнтра культуры і адпачынку, Л.Мотуза — загадчыца аддзела камплектавання раённай бібліятэкі, М.Міткевіч — загадчык пастановачнай часткі народнага тэатра РДК — і іншыя прадстаўнікі розных устаноў культуры Краснапольскага раёна.

Трэба было бачыць, як раскрыліся душы гэтых людзей насустрач дабру, з якой любоўю яны спявалі, як усміхаліся, хаця ў душы была трывога, а часам і слёзы. І невыпадкова паэт з г.Оршы прысвяціў ім у канцы свайго выступлення такія радкі:

*Усе мы разам — беларусы,*
*А беларусы будуць жыць!*

Усім арганізатарам акцыі "Дні культуры Краснапольшчыны ў Оршы" перадаюць вялікую падзяку і нізкі паклон усе ўдзельнікі паездкі, работнікі культуры Краснапольскага раёна.

**Тамара ФЯДОСЕНКА,**
**загадчыца аддзела культуры Краснапольскага райвыканкама**

# УШАНУЕМ ПАМЯЦЬ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Як вядома, доўгія гады замоўчвалася творчасць і грамадская дзейнасць выдатнай дачкі Беларусі Ларысы Геніюш. Яна пражыла нялёгкае жыццё самаадданага служэння Беларусі і паэтычным словам, і грамадзянскай непахіснасцю. Лёс правёў яе па сталінскіх турмах, этапах, перасылках, лагерах, яна зведала доўгія гады ціхага цкавання на Радзіме.

Апошнім часам творчасць Л.Геніюш знаходзіць удзячных чытачоў: друкуюцца вершы, выдадзена кніга ўспамінаў "Споведзь".

Значнай падзеяй стаў спектакль "Белы сон" паводле твораў Л.Геніюш, пастаўлены тэатрам "Зьніч". Яшчэ ў 1992 годзе на прэм'еры спектакля нарадзілася ідэя штогод пачынаць тэатральны сезон тэатра "Зьніч" спектаклем "Белы сон" у Зэльве, дзе апошнія чвэрць веку пражыла Ларыса Геніюш. Так упершыню была ўшанавана памяць паэткі. У Зэльву разам з тэатрам прыехалі пісьменнікі з Мінска і Гародні. На наступны 1993 год у дзень памяці Л.Геніюш у Зэльве ўжо было шматлюдна. Да тэатра "Зьніч" і пісьменнікаў далучыліся грамадскія арганізацыі — Жаночы хрысціянска-дэмакратычны рух Беларусі і "Бацькаўшчына", а таксама жыхары раёна і замежныя госці.

Сёлета тэатр "Зьніч" і Жаночы рух будзе ладзіць 9 жніўня ў Мінску і 22 жніўня ў Зэльве імпрэзы памяці Ларысы Геніюш.

Надышоў час зрабіць наступны крок — стварыць мемарыяльны музей Л.Геніюш у Зэльве ў доме па вул.Савецкай, 7, дзе прайшла апошняя чвэртка веку паэткі, дзе былі напісаны большасць яе пасляваенных вершаў і ўспаміны "Споведзь".

Запрашаем дзяржаўныя структуры і грамадскія арганізацыі прыняць удзел у гэтай пачэснай справе.

**Людміла ПЕЦІНА,**
**старшыня Жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху Беларусі**

**Галіна ДЗЯГІЛЕВА,**
**мастацкі кіраўнік тэатра**

# ШТО ЯМО, СПАДАРЫ?

Нядаўна натрапіў на стары падручнік па гігіене харчавання, па якім вучыўся ў медвучылішчы і куды зазіраў падчас працы ў гарадской санэпідэмстанцыі. Колькі ж там прыводзіцца розных стандартаў, нарматываў, якія павінны рэгламентаваць літаральна кожнае рэчыва, што ўваходзіць у ежу! Цікава, а ці кіруюцца гэтымі правіламі, правяраючы прадукты харчавання, зараз? З гэтымі думкамі накіраваўся ў былую СЭС, якая цяпер стала Мінскім гарадскім цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі, і звярнуўся да загадчыцы аддзялення гігіены харчавання Надзеі Раманаўны Астапавай, якая распавяла аб сістэме кантролю за прадуктамі харчавання:

*— Існуе абавязковы штодзённы кантроль бяспекі і якасці харчовых прадуктаў, які праводзіцца на вытворчых прадпрыемствах, якія адказваюць за тое, што выпрабляюць. Акрамя таго, санэпідэмслужба горада праводзіць выбарачны лабараторны кантроль за харчовымі дадаткамі, колькасцю нітратаў, пестыцыдаў, радыенуклідаў, антыбіётыкаў, афлатаксінаў (рэчывы, якія выдзяляюць некаторыя цвільныя грыбы), а таксама харчовай каштоўнасцю прадуктаў. Пры гэтым мы кіруемся медыка-біялагічнымі патрабаваннямі і санітарнымі нормамі якасці харчовых сыравіны і прадуктаў, а таксама рэспубліканскімі дапушчальнымі ўзроўнямі радыенуклідаў, зацверджанымі Міністэрствам аховы здароўя ў 1992 годзе.*

*Раз на год мы правяраем аб'екты, якія маюць эпідэміялагічнае значэнне. У такой праверцы ўдзельнічаюць эпідэміёлагі, паразітолагі, бактэрыёлагі і ўсе, хто мае да гэтага дачыненне, каб даць поўную ацэнку санітарнага стану прадпрыемстваў харчовай прамысловасці, асобным сталовым, кандытарскім цэхам, якія звычайна правяраюць раённыя эпідстанцыі.*

*Ёсць яшчэ Дзяржстандарт, які таксама кантралюе якасць прадуктаў, што выпрабляюць нашы заводы і фабрыкі.*

Што здзівіла — аказваецца, імпартныя прадукты, якія нам так падабаюцца сваімі прыгожымі абгорткамі і нязвыклым смакам, часам нясуць куды большую небяспеку, чым нашы, айчынныя. Чаму?

*— Імпартныя прадукты павінны мець сертыфікат якасці, які выдаецца па выніках лабараторных даследаванняў. Скажу адразу — гэта вельмі нялёгка. Праверка і даследаванне аднаго прадукта часам займае да 12 дзён! Але ж рабіць гэта неабходна. Напрыклад, яшчэ два-тры гады назад нас захліствала плынь няякасных альбо сфальсіфікаваных лікёра-гарэлачных вырабаў, дзе цяжка было нават вызначыць, з чаго "зляпілі" так званы каньяк, пасля ўжытку якога чалавеку пагражала цяжкая хвароба альбо лятальны зыход. Цяпер, канешне, няма такога размаху, але хапае прадуктаў, якія ўжываць ніяк нельга, і кожны тыдзень мы іх затрымліваем. За мінулы год было выяўлена больш за 830 тысяч кілаграмаў няякасных прадуктаў, з іх недзе каля 464 літраў "каньякоў" з Азербайджана, гарэлкі з Украіны, Расіі, Балгарыі, дзе знаходзілася катастрафічная колькасць сівушных маслаў і альдэгідаў. У некаторых колькасць метылавага спірту, ад 50 грамаў якога можна аслепнуць, перавышала норму ў некалькі разоў! Было багата няякаснай польскай кавы з пахам цвілі і гарэлымі зярнятамі, забаранілі мы і 6 тысяч кілаграмаў сметанковага масла з Амерыкі, у якім было зашмат солі, 26 тон алею з Украіны, які быў ёлкі і які лепей за ўсё было адправіць на вытворчасць фарбаў і аліфы. Дарэчы, многія баяцца асадку ў сланечнікавым алеі, але ён карысны і аказвае супрацьсклератычнае ўздзеянне.*

*Вядома, што такая забарона не праходзіць гладка: не раз прыязджалі да нас прадстаўнікі замежных фірмаў, чые прадукты мы вярталі. Але зараз па нашай ініцыятыве створана калектыўная сістэма кантролю, куды ўваходзяць Міністэрства аховы здароўя, Гандлёва-прамысловая палата, МУС, Дзяржстандарт, Інспекцыя па ахове правоў спажыўца, якія раней працавалі кожны паасобку. Разам мы працуем значна лепей...*



*А што там, за прыгожай абгорткай?*

Так што, шаноўныя спадары, прадукты з сертыфікатам якасці, выдадзеным па выніках даследавання Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, можна есці. Вось толькі ці ёсць гэтыя сертыфікаты ў гандляроў? Паводле заканадаўства, за парушэнне санітарных правілаў, у тым ліку за адсутнасць сертыфіката, плаціцца штраф у памеры да 50 мінімальных зарплат, а ў злосных парушальнікаў дазвол на гандаль адбіраецца. І зноў жа — застаецца верыць, што так яно і ёсць, прынамсі, хаця б у Мінску. І што, паднімаючы кілішак з жоўтай вадкасцю, якая значыцца як азербайджанскі каньяк, мы можам быць упэўненыя, што заўтра ўстанем, каб ісці на работу з самаадчуваннем, якое залежыць толькі ад прынятай намі дозы...

**Руслан КАЧАТКОЎ**

ПАРТРЭТ СУЧАСНІКА

# "Я РАЗЛЮБІЛА ЖЫЦЦЁ..."

Жанна сядзела перада мной на шыкоўнай, абшытай чорнай скурай канапе, падабраўшы ногі і ледзь не па самую галаву захутаўшыся тоўстым клятчатым пледам. І чамусьці яна ўсё больш нагадвала маленькае зацкаванае звераня...

Яе ўсю трэсла, нібы ад холаду, хаця за акном было больш за дваццаць цяпла, а ў ейнай трохпакаёвай кватэры задушліва ад уключанай газавай пліты, на якой кіпяцілася бялізна. І каб не дрыжыкі, што прабівалі ейнае цела, гэтую маладую крохкую жанчыну можна было б прыняць за мумію. Яна ўсё разглядала вільготнае ад дажджу лісце за вакном, і, здавалася, шукала сабе месца там, сярод прыроды. І раптам гэтыя словы:

— Добра там. Хаця заўсёды добра там, дзе нас няма... От мне б туды, дзе няма ўсяго гэтага, нашага. Туды, у часы Адама з Евай. Дык і ім жа нечага не хапала, га?

Я кіўнуў. І ўзрадаваўся, што гаворка хоць з нечага, ды пачалася.

Яна скінула з сябе плед, ускочыла і накіравалася да бара. Дастала пляшку "нянашага" напою, кілішкі і паставіла на столік.

— Гэта я так, — заўважыла Жанна, — для гаворкі. Каб лягчэй ішла. Мне выказацца трэба.

Выпіла нагбом. Ад моцнага напою на вачах праступілі слёзы.

А мне падумалася: адкуль у яе ўсё гэта — сутулаватасць, мярвецкі твар і, ў рэшце рэшт, такая "нявінная" прага да спіртнога? Не ад дабрага жыцця, напэўна.

А яна, трохі суцешыўшыся, сіпла прамовіла:

— Пагана мне, вой як пагана... Чуеш? Вось тут нешта цісне...

І яна колькі разоў стукнула сябе кулаком у грудзі. Пасля ўскочыла на канапу і галавой уткнулася ў падушку.

Ёй трыццаць тры. Узрост Хрыста. Ды, азірнуўшыся назад, няма за што жанчыне памяццю зачапіцца. Пустэча, бессэнсоўнасць. Так кажа яна і ў каторы раз з горыччу ўздыхае: "О Божухна!"



*...Кудысьці спяшаемся, прабягаем міма незнаёмых нам людзей, не маем нават хвіліны, каб угледзецца ў іхнія твары. Але ж давайце спынімся на імгненне... Задумаемся аб сабе — і часе, у якім жывем...*

**Фота Г.ЖЫНКОВА**

Нарадзілася Жанна і вырасла ў адным з раённых гарадкоў Віцебскай вобласці. (Спецыяльна яго не называю, бо дзяўчыну і без таго добра ведаюць у гарадку.) Пашанцавала паступіць у Мінскі інстытут культуры. Скончыла яго і прыехала назад у родны горад падымаць культурнае жыццё. Толькі пасля сталіцы перыфірыя здавалася сумнай, бо ўсю сябе трэба аддаваць толькі працы. Яна гэтага не хацела. А каб жыць "на ўзроўні", нават удалечыні ад сталіцы, трэба мець грошы. А дзе метадысту гарадскога Дома культуры іх браць? Што рабіць? Можа, удала выйсці замуж? Толькі выбар сярод мясцовых забулдыг-трактарыстаў яе не задавальняў. Праблема выйсці замуж у дзяўчат з невялікіх гарадоў — адна з галоўных. Але ёй, прыгожай, даўганогай, стройнай і заўжды вясёлай, у рэшце рэшт, усміхнулася сонейка. Знаёмыя маладзіцы звялі неўзабаве Жанну з хлопцам — мараком дальняга плавання, што прыехаў пагасцяваць дамоў. Нежанаты, прыгожы, а галоўнае — заўсёды пры грашах. Ці не пра гэта мараць многія правінцыялкі? У маладых пачаўся бурны раман, хаця ён быў маладзейшы на тры гады. Іх заўсёды бачылі разам у кінатэатры, на дыскатэках, ледзь не штовечар у адзіным мясцовым рэстаране.

Сватацца Аляксандр прыехаў на ўласнай "Вольве" (вялікае дзіва на тыя часы для маленькага гарадка). Аўтамабіль стаўся своеасаблівым вясельным падарункам. Маладыя ажаніліся. Толькі зараз яна кажа, што ніякага кахання ў яе і не было. Затое раней, чым у сяброўак, у яе з'явіліся скураныя куртка, плашч, навамодныя джынсы, розны трыкатаж, усялякая касметыка і, безумоўна, дарагія залатыя ўпрыгожанні. І яна сябе адчувала сапраўднай каралеўнай. Але ніхто і не здагадваўся, што ўвесь гэты час у яе было на душы. Жыць з чужым па духу чалавекам хутка стала няўсцерп. Надакучыла! Сэрцу захацелася перамен. І калі Аляксандр адпраўляўся ў чарговае доўгатэрміновае плаванне, яна адчувала сябе вольным чалавекам, ды яшчэ "пры грашах". І яе ўсё часцей бачылі сярод маладых хлапцоў: на дыскатэцы, у кіно, рэстаране. Жанна моцна пасябравала і з "прадстаўнікамі каўказскай нацыянальнасці", што гандлявалі ў горадзе гваздзікамі і рознай паўднёвай садавінай і гароднінай. Гарачыя хлапцы шчодра адорвалі прывабную беларусачку, папаўняючы новымі рэчамі ейны гардэроб.

Калі ў чарговы раз Аляксандр вярнуўся з плавання, Жанна была цяжарная. Ён быў упэўнены, што ад яго. Яна — не вельмі. Нарадзіўся хлопчык, і Жанна ўсю сябе аддавала малому, пакуль... пакуль Аляксандр зноў не зазбіраўся ў дарогу... Маленькага Міцю, як толькі той падрос, маладая маці неўзабаве адправіла да пажылых бацькоў і прынялася за старое.

Прыйшоўшы ў каторы раз з плавання, Аляксандр ужо не мог жыць разам з Жаннай. Сябры і знаёмыя паспелі расказаць яму аб неверагодных паходжаннях жонкі. У хуткім часе Аляксандр падаў дакументы на скасаванне шлюбу, прычым вырашыў пакінуць жонцы ўсё нажытае і забраць самае дарагое, што ў яго засталося, — сына. Яна і не пярэчыла: маўляў, на каленках яшчэ прыпаўзеш. Але ён не прыпоўз. Забраўшы малога, Аляксандр паехаў на Украіну. Там ажаніўся другі раз і мае яшчэ адно дзіця.

Не ў горкім адзіноцтве правяла Жанна апошнія гады. Ад працы яна адвыкла. Пасля разводу не ачомалася. Не! Як на злом галавы, ізноў панесла, закруціла...

Другі раз яна выйшла замуж за Анатоля.

— Вяселле гулялі шумнае, — дзеліцца сваімі ўспамінамі Жанна. — Наўрад ці калі такое бачылі мясцовыя жыхары. Госці панаехалі ледзь не з усяе Беларусі. На ўласных аўтамабілях. І ніводнай айчыннай маркі! Мужчыны ў "скуранках", з паголенымі скронямі. Усе нібы на адзін твар. І маладзіцы былі пры іх няроўныя нашым. Усе "па фірме" апранутыя... Публіка на вяселлі была адпаведна статусу яе мужа — крымінальніка, які выйшаў на волю зусім нядаўна і працягваў сваю "незаконную дзейнасць".

Ад яе неўзабаве адвярнуліся ўсе старыя сяброўкі і знаёмыя. А дома бывалі людзі ёй чужыя — у асноўным прыезджыя. Абмяркоўвалі справы: як трэсці "чаўнакоў" на польскай, расейскай, украінскай граніцах, кантраляваць гандляроў валютай. Адным словам — займаліся рэкетам.

У сям'і ў асноўным гаварылі пра грошы, адзенне, аўтамабілі...

Ды, як можна было чакаць, неўзабаве Анатоль і некаторыя яго хаўруснікі трапілі пад следства, па справе аб замаху на жыццё і крадзяжы вялікай сумы валюты.

Ён зноў, у каторы раз, апынуўся за кратамі. Жанна зноў засталася адна.

І ходзіць яна начамі з кута ў кут, і думае — дзеля чаго жыць, чаго чакаць ад будучыні? Для нечага ж нарадзілася яна, прыйшла ў гэты вялізны, складаны свет, дзе хацела шчасця і лёгкасці, а атрымала ганьбу ад людзей, адзіноту і адчуванне сваёй непатрэбнасці нікому, нават уласнаму сыну.

І ці ўздымецца яна духоўна, ці прыйдзе праз пакуты да сябе самой, каб працягваць жыццё, якое яна разлюбіла?

**М.Р.**

# АПОШНІ КАРОЛЬ

*Апошнім каралём польскім і вялікім князем літоўскім, рускім і жамойцкім быў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Ягонае панаванне — гэта перыяд палітычнага заняпаду Рэчы Паспалітай, спробы рэформаў і ўмацавання дзяржаўнага ладу краіны, інтэрвенцыі Расіі і яе саюзніка Прусіі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Гэта час, калі суседнія манархіі — Расія, Прусія і Аўстрыя — дзялілі тэрыторыю дзяржавы (падзелы 1772, 1793 і 1795гг.), калі патрыятычныя сілы ў Польшчы, Літве і Беларусі на чале з Тадэвушам Касцюшкам падняліся на ўзброенае паўстанне ў 1794г., каб ратаваць незалежнасць радзімы. Скончылася панаванне Станіслава Аўгуста ў 1795г. ліквідацыяй Рэчы Паспалітай. Незалежнасць Польшчы і Беларуска-Літоўскай дзяржавы была скасавана Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй, Беларусь і амаль уся Літва далучаны да Расійскай імперыі, а Польшча падзелена паміж Прусіяй і Аўстрыяй.*

## ПАХОДЖАННЕ

Станіслаў Аўгуст Панятоўскі наогул не кранаўся гэтага пытання. Кароль Рэчы Паспалітай проста замоўчваў сваё паходжанне, бо належаў да дробнай шляхты.

Ужо потым, у час панавання Станіслава Аўгуста, у генеалагічных даведніках гаварылася, што род Панятоўскіх паходзіць нібыта з Італіі, са старажытнай дваранскай сям'і Тарэлі, прадстаўнік якой у XVII ст. перасяліўся ў Польшчу, пераклаўшы сваё прозвішча на Цёлак (цяля, бычок). Дарэчы, гэта герб Панятоўскіх. Але легенда не вельмі стасуецца з генеалагічнымі даследаваннямі, бо гербам Цёлак (на якім сапраўды выява бычка) карысталіся да 30 шляхецкіх родаў. У XVIII ст. і пазней хадзілі чуткі, што Панятоўскія з дробнай беларускай шляхты.

А ўвогуле прозвішча Панятоўскіх паходзіць ад маёнтка і мястэчка Панятовы (цяпер горад Панятова) у Люблінскім ваяводстве. Першым з гэтага роду (паводле дакументаў) быў Марцін Цёлак Мацяёўскі з Панятовай, які жыў у другой палове XV ст. У XVII ст. Панятоўскія былі сярэдняй шляхецкай сям'ёй, служылі ў іншай, багатай шляхты, займаючы розныя пасады па кіраванні гаспадаркай або падстаростамі (г.зн. кіраўнікамі) асобных маёнткаў. Калі былі грошы, то часам нават арэндавалі маёнткі. Ян Панятоўскі (памёр у трэцяй чвэрці XVIIст.), прадзед караля, паўставаў менавіта такім дробным шляхцічам.

Да гэтага роду належала беларуская лінія Панятоўскіх (гербу Цёлак). Нікадэм Тадэвуш Панятоўскі меў ганаровы тытул (праўда, нязначны) чэсьніка мсціслаўскага на пачатку XVIIIст. Чэсьнікі калісьці налівалі віно ў кубак, які трымаў падчашы, перад тым як падаць каралю або князю. Потым гэтая галіна роду пасялілася на Украіне. Але прадстаўнікі галіны засталіся на Беларусі і яшчэ на пачатку XXст. жылі ў Смаленскай і Магілёўскай губернях.



Сын Яна Панятоўскага, Францішак (памёр у канцы 1697г.), дзед караля Станіслава Аўгуста, ад 1690г. меў тытул чэсьніка вышагродскага, спачатку служыў у князёў Любамірскіх у іх маёнтках у паўднёва-ўсходняй Польшчы. Выбіўся ў шэрагі сярэднязаможнай шляхты, калі ў 1670г. быў прызначаны Г.А.Любамірскім на пасаду падстаросты жэшуўскіх маёнткаў князёў Любамірскіх. Гэта было пачаткам узвышэння роду Панятоўскіх. А ганаровы тытул чэсьніка толькі пацвердзіў гэта.

## БАЦЬКА КАРАЛЯ

У Францішка Панятоўскага было тры сыны — Юзаф (1675 —1739), Станіслаў (1676 — 1762) і Міхал (1683 — 1716), манах-дамініканец. Найбольш вядомым стаўся Станіслаў Панятоўскі (15 верасня 1676 — 29 жніўня 1762), бацька караля, які выбіўся ў магнаты, зрабіўшы бліскучую кар'еру.

Атрымаў адукацыю ў Вене. Там запісаўся ў аўстрыйскае войска і ўдзельнічаў у бітвах супраць туркаў пад камандаваннем палкаводца Савойскага, прынца Яўгена. Вярнуўся на радзіму дасведчаным вайскоўцам і быў добра прыняты каралём Янам Сабескім. Далейшы лёс Станіслава Панятоўскага звязаны з Беларуссю і Літвой. Падчас канфліктаў Сапегаў з большай часткай беларуска-літоўскай шляхты С.Панятоўскі выступіў на баку Сапегаў. Ён удзельнічаў у вырашальнай бітве пад Алькенікамі 2 лістапада 1700г., дзе атрады Сапегаў былі разбіты войскамі беларуска-літоўскай шляхты. С.Панятоўскі трапіў у палон, але здолеў збегчы ў Варшаву. Стаўся палкоўнікам кароннага войска. Тады ж ажаніўся з Тэрэсай Война-Ясенецкай, з якой праз 10 гадоў развёўся.

Пасля ўваходу войскаў шведскага караля Карла XII у Рэч Паспалітую, падчас Паўночнай вайны, С.Ляшчынскі, як і яго былыя кіраўнікі Сапегі, перайшоў на бок Карла XII і стаўся прыбліжаным да новаабранага караля польскага і вялікага князя літоўскага Станіслава Ляшчынскага. Далей ён дзяліў свой лёс з гэтым каралём і ўдзельнічаў у бітвах з войскамі Аўгуста II і расійскімі войскамі. Ён стаўся генералам кавалерыі шведскага войска і быў дыпламатам Карла XII. Удзельнічаў у бітве пад Галаўчынам (14 ліпеня 1708г.) і ў бітве пад Палтавай (8 ліпеня 1709г.), дзе ўратаваў жыццё шведскаму каралю. Разам з Карлам XII С.Панятоўскі ўцёк да туркаў у крэпасць Бэндэры (у Малдове). Потым быў губернатарам у маленькім пфальцграфстве Цвайнбрукен (недалёка ад Францыі), якое належала Карлу XII і дзе Станіслаў Ляшчынскі быў часовым уладальнікам паводле паўнамоцтваў шведскага караля.

Пасля таго як Карл XII загінуў на вайне ў 1718 г., С.Панятоўскі вярнуўся ў Польшчу і па просьбе шведскай каралевы Ульрыкі Элеаноры, сястры і пераемніцы Карла XII, атрымаў ад Аўгуста Моцнага свае маёнткі і ўвайшоў у давер да караля. Ён стаў генерал-лейтэнантам войска літоўскага. У 1722 г. атрымаў важную пасаду падскарбія вялікага літоўскага (адпаведнік міністра фінансаў у Беларуска-Літоўскай дзяржаве). Але яго кар'ера пачалася крыху раней, калі ён, удавец, у 1720 г. ажаніўся з маладзейшай за яго князёўнай Канстанцыяй Чартарыскай (1696 — 1759), дачкой кашталяна віленскага Казіміра Чартарыскага. Сям'я Чартарыскіх дзякуючы гэтаму шлюбу ўзмацніла свае пазіцыі пры двары. У пасаг Канстанцыя атрымала 400 тысяч злотых, за якія сям'я Панятоўскіх у 1721 годзе набыла ад фельдмаршала Я.Г.Флемінга маёнтак Воўчын і Радванічы (у Берасцейскім павеце). Ад гэтага шлюбу ў 1721 — 1736 гг. нарадзілася 8 дзяцей.



Кар'ера Станіслава Панятоўскага працягвалася. У 1731 годзе ён быў прызначаны каралём на пасаду ваяводы мазавецкага, у 1733-м стаў рэгіментарам (намеснікам гетмана) войскаў каронных, у 1752 г. — кашталянам кракаўскім. Ён быў таксама старостам Войніцкім і Люблінскім. Такім чынам, Станіслаў Панятоўскі ўвайшоў у найвышэйшае кола магнатаў Рэчы Паспалітай. Панятоўскія ўжо карысталіся графскім тытулам. Старт для кар'еры сына быў падрыхтаваны.

## МАЛАДЫЯ ГАДЫ

Станіслаў Аўгуст Панятоўскі нарадзіўся 17 студзеня 1732 года ў Воўчыне (цяпер Камянецкі раён), у маёнтку свайго бацькі. Ён быў чацвёртым сынам (з шасці). Атрымаў добрае выхаванне і адукацыю. Малады чалавек быў інтэлігентным, здольным, з мяккім характарам. Ён, як было заведзена ў магнацкіх сем'ях, удасканальваў свае веды падчас падарожжаў у Еўропу — у Францыю і Англію праз Нямеччыну. Азнаёміўшыся з культурнымі дасягненнямі Захаду, ён на ўсё жыццё застаўся прыхільнікам еўрапейскай культуры. Гэтая ягоная цяга наогул праявілася пазней, калі ён стаў каралём і мецэнатам, што было добрым прыкладам і для магнатаў Рэчы Паспалітай у апошняй трэці XVIII ст.

Маладым чалавекам Станіслаў Аўгуст Панятоўскі праявіў цікавасць да палітыкі, па-за якой не змог застацца, бо бліжэйшыя сваякі маці — Чартарыскія ("Фамілія") — якраз займалі кіруючыя пазіцыі ў палітычным жыцці Рэчы Паспалітай. Ён добра пазнаёміўся з сітуацыяй у краіне. У 1755г. Станіслаў Аўгуст атрымаў ганаровы тытул стольніка літоўскага (калісьці ў пануючага вялікага князя стольнік займаўся справамі забеспячэння стала падчас урачыстых прыёмаў). Атрымаў таксама староства Пшэмысльскае, з якога меў даходы. Іншых пасад Станіслаў Аўгуст не атрымаў, так што меў даволі сціплыя тытулы ў параўнанні з іншымі магнатамі.

Малады Панятоўскі перайшоў на дыпламатычную службу, але не ў пасольствах Рэчы Паспалітай, а на службу ў пасольствах іншых дзяржаў, што тады не лічылася заганным. У 1755 — 1756 і 1757 — 1758гг. знаходзіўся ў Пецярбургу спачатку як сакратар саксонскага пасла. Прыгожы, інтэлігентны і далікатны малады граф звярнуў на сябе ўвагу вялікай княгіні Кацярыны Аляксееўны, жонкі наследніка расійскага трону, вялікага князя Пятра Фёдаравіча, старэйшай за Панятоўскага на два з паловай гады. Пачаўся бурны раман, вялікая княгіня зацяжарыла. Нарадзілася дачка Ганна, якую Панятоўскі і ўвесь расійскі двор лічыў дачкой Станіслава Аўгуста Панятоўскага, хаця фармальна яна была дачкой мужа вялікай княгіні. Станіслаў Аўгуст нават хацеў, каб Кацярына Аляксееўна разышлася з мужам і выйшла замуж за яго. Тады ён мог бы прэтэндаваць на польскую карону. Але ў Кацярыны Аляксееўны былі зусім іншыя планы. Ды і дзяўчынка хутка памерла. Панятоўскі вельмі перажываў яе смерць, бо моцна любіў дзіця.

Праз Станіслава Панятоўскага англійскі пасол у Пецярбургу Уільйэмз звязаўся з вялікай княгіняй, падтрымаў яе ў прыдворных інтрыгах і даваў ёй буйныя грашовыя субсідыі, як і кіраўнікам знешнепалітычнага ведамства Расіі, што не лічылася заганным і крымінальным, але на палітыку ўплывала. У 1758г. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі вярнуўся на радзіму. Ад яго рамана з вялікай княгіняй засталася перапіска. Надзеі ўжо не было. Кацярына пакахала гвардзейскага афіцэра Рыгора Арлова, а потым, у 1762г., у выніку палацавага перавароту была абвешчана ўсерасійскай імператрыцай Кацярынай II (яе муж, Пётр III, быў забіты праз некалькі дзён пасля перавароту). Аднак Кацярына II не забылася на свайго былога каханка. Ведаючы ягоны характар і яго ранейшыя пачуцці да яе, яна лічыла, што лепшай кандыдатуры на каралеўскі пасад у Варшаве для яе, а значыць, і для Расіі не трэба. Праз яго можна будзе праводзіць неабходную для Расійскай імперыі палітыку ў Рэчы Паспалітай. І не трэба ўжо будзе ўзгадняць кандыдатуру саксонскага прынца на выпадак смерці караля Аўгуста III з Аўстрыяй і Прусіяй. Расія ўжо была дастаткова моцнай, каб самастойна правесці на каралеўскі трон прыхільную да яе кандыдатуру.

## АБРАННЕ КАРАЛЁМ

5 кастрычніка 1763 года памёр кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аўгуст III (Саксонскі). Каралеўскі пасад у Рэчы Паспалітай стаўся вакантным. Пачалася падрыхтоўка да выбараў новага караля.

Але Расія падрыхтавалася яшчэ раней. Неўзабаве пасля ўступлення на трон імператрыца Кацярына II у рэскрыпце расійскаму пасланніку ў Варшаве Г.К.Кайзерлінгу (8 лютага 1763г.) у сувязі з чуткамі аб хваробе і магчымай смерці караля Аўгуста III паставіла задачу абраць караля, які быў бы цалкам падпарадкаваны ёй. Царыца загадала патрабаваць ад кандыдата ў каралі за яе падтрымку перадачы Расіі часткі тэрыторыі Рэчы Паспалітай і выдачы "многіх тысяч" сялян, якія ўцяклі з Расіі. 6 кастрычніка 1763г. на нарадзе ў Кацярыны II былі пацверджаны гэтыя патрабаванні і прыняты праект па тэрытарыяльным пытанні, у якім вызначаліся вобласці, што павінны былі быць перададзены Расіі. Новая мяжа цалкам супадала з той, што была ўстаноўлена Расіяй потым, паводле першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772г. Такім чынам, ужо ў 1763г. Кацярына II першай паставіла пытанне аб далучэнні да Расіі ўсходняй і паўночнай частак Беларусі і ўсходняй часткі Латвіі. Пры гэтым расійскі царызм выступаў супраць падзелаў Рэчы Паспалітай з іншымі дзяржавамі, лічачы лепш мець слабога і цалкам залежнага ад Расіі суседа на сваёй заходняй мяжы.

А ў Рэчы Паспалітай паміж магнацкімі групоўкамі Чартарыскіх і Патоцкіх ішла барацьба за трон.

Групоўка Чартарыскіх, зыходзячы з пажаданняў Кацярыны II, вылучыла кандыдатуру свайго пляменніка — Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Патоцкія і іх "саксонска-рэспубліканская партыя" былі прыхільнікамі Фрыдрыха Хрысціяна (1722 — 1763), старэйшага сына Аўгуста III, але ён, курфюрст саксонскі, памёр праз два з паловай месяцы пасля смерці бацькі, а ягоны сын Фрыдрых Аўгуст III (1750 — 1827) быў яшчэ падлеткам, і для саксонскага

трону быў прыдатны, а для польскага — не. Пазней Напалеон усё ж такі перадаў яму ў 1807г. трон Вялікага княства Варшаўскага.

Па просьбе Чартарыскіх Кацярына II паслала ў Рэч Паспалітую расійскія войскі. Адным з кіраўнікоў групоўкі Патоцкіх быў Кароль Радзівіл ("Пане-Каханку"). У 1764г. на Беларусі і Літве прыхільнікамі Чартарыскіх была створана генеральная канфедэрацыя, якая выступіла супраць



Радзівілаў. Пачаліся ваенныя дзеянні. Беларуска-літоўскае войска сумесна з расійскімі атрадамі ў чэрвені 1764г. захапіла радзівілаўскія крэпасці Нясвіж і Слуцк. Войска Радзівіла было разбіта, а сам ён уцёк за мяжу. Ягоныя ўладанні часова перайшлі ў кіраванне літоўскай генеральнай канфедэрацыі. У Польшчы праціўнікі Чартарыскіх таксама былі падаўлены.

Абапіраючыся на сярэднюю шляхту, Чартарыскія на канвакацыйным сойме (папярэднічаў выбарчаму і выпрацоўваў умовы, з якімі мусіў пагаджацца кароль пры абранні на выбарчым сойме), які адбыўся ў траўні-чэрвені 1764г., паспрабавалі правесці памяркоўныя рэформы дзяржаўнага ладу дзеля ўмацавання цэнтральнай ўлады. На сойме было абмежавана ўжыванне права "ліберум вета" (аднагалоссе), дэпутаты не абавязаны былі прытрымлівацца інструкцыі соймікаў, калі інструкцыі разыходзіліся з думкай большасці сойму. Былі прынятыя пастановы аб упарадкаванні фінансаў і суда, павелічэнні войска. Аднак у той няпэўнай сітуацыі, калі шмат хто выступаў супраць рэформаў, Чартарыскія не пагадзіліся на перадачу Расіі Усходняй Беларусі.

На выбарчым сойме, пад аховаю расійскіх войскаў і прыватных войскаў "Фаміліі", 6 верасня 1764г. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі быў абраны каралём польскім і вялікім князем літоўскім, рускім і жамойцкім. Каранаваўся ён 25 лістапада таго ж года. На каранацыйным сойме 1764г. браты караля і іх нашчадкі атрымалі княжацкі тытул.

Абранне на трон Станіслава Аўгуста адбылося ў неспрыяльных абставінах чарговай акупацыі краіны расійскімі войскамі. Папярэдне, 11 красавіка 1764г., паміж Расіяй і Прусіяй быў заключаны саюзны дагавор, згодна з сакрэтным артыкулам якога абедзве дзяржавы ўзялі на сябе абавязак ахоўваць сілай зброі дзяржаўны лад Рэчы Паспалітай, не дапускаючы сур'ёзных рэформаў і ўзмацнення дзяржаўнага ладу і цэнтральнай улады ў краіне. Ужо ў 1765г. Кацярына II у сваёй ноце заявіла сойму Рэчы Паспалітай аб неабходнасці "ўрэгулявання граніц паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй".

## ПАНАВАННЕ СТАНІСЛАВА АЎГУСТА

Станіслаў Аўгуст не адразу стаў марыянеткай у руках Кацярыны II. Разам са сваімі сваякамі Чартарыскімі ён спрабаваў вызваліцца ад поўнай залежнасці ад Расіі, шукаў шляхоў да саюзу з Аўстрыяй і Францыяй, каб супрацьстаяць Расіі і Прусіі. Ва ўнутранай палітыцы ён прагнуў пагаднення з групоўкай Патоцкіх ("рэспубліканцамі"), каб усё ж такі адстаяць незалежнасць дзяржавы. Але кансерватыўная групоўка магнатаў засталася непрыхільнай да караля, захаваўшы свае погляды на дзяржаўны лад і свае сімпатыі да Саксонскай дынастыі.

Станіслаў Аўгуст Панятоўскі спрабаваў стварыць сваю групоўку з шляхты цэнтрысцкага характару. Але ажыццяўленне задумы прывяло да канфлікту з Чартарыскімі, якія не хацелі саступаць каралю. Тым не менш першыя спробы рэформаў у 1764 — 1766гг. праводзіліся разам з Чартарыскімі, аднак яны былі перапынены Расіяй. Кацярына II выкарыстала дысідэнцкае пытанне (аб правах хрысціян-некатолікаў) і разам з Прусіяй запатрабавала ўраўнавання ў правах з каталікамі пратэстантаў і праваслаўных, якія ў гэты перыяд складалі толькі 5 працэнтаў насельнікаў дзяржавы. Пры гэтым у афіцыйных дакументах нагадвалася толькі пратэстанцкая і праваслаўная шляхта, а не ўсё насельніцтва. Кацярына II патрабавала даць ёй права займаць дзяржаўныя пасады. Пасля адмовы сойму ў Рэчы Паспалітай былі створаны з дапамогай расійскіх грошай шляхецкія канфедэрацыі і зноў уведзены расійскія войскі. Сойму ў лютым 1768г. быў навязаны дагавор —"вечны трактат", у якім Расія гарантавала "кардынальныя правы": захаванне анархічнага дзяржаўнага ладу, "ліберум вета", выбарнасць караля, непахіснасць шляхецкіх прывілеяў, а таксама ўраўнаванне правоў праваслаўнай і пратэстанцкай шляхты разам з каталіцкай у занятці дзяржаўных пасад.

Аднак, дамогшыся сваёй мэты захавання анархічнага ладу дзяржавы пад расійскім кантролем, Кацярына II больш ужо не звяртала ўвагі на рэлігійнае пытанне. Праўда, апазіцыі не ўдалося дэтранізаваць Станіслава Аўгуста, але ўлада караля была цяпер пад большым кантролем Расіі, чым раней.

Новае выпрабаванне для караля адбылося з пачаткам дзейнасці Барскай канфедэрацыі (1768 — 1772гг.), калі шырокія колы патрыятычна настроенай шляхты падняліся ў Польшчы, Беларусі, Літве і на Украіне за аднаўленне сапраўднай незалежнасці Рэчы Паспалітай ад Расіі, супраць караля "узурпатара". С.А.Панятоўскі вагаўся: ці дзейнічаць супраць канфедэратаў разам з Расіяй (бо расійскія войскі зноў былі ўведзены ў Рэч Паспалітую), ці праводзіць палітыку пасіўнага адпору Расіі (як раілі Чартарыскія), ці паразумецца з барскімі канфедэратамі. Аднак канфедэраты 22 кастрычніка 1770г. абвясцілі бескаралеўе і нават 3 лістапада 1771г. арганізавалі на караля замах, праўда, няўдалы. Канфедэраты напалі на карэту Станіслава Аўгуста і захапілі яго, але ў цемнаце рассеяліся, і кароль здолеў вярнуцца ў палац.

Падчас першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. (калі пад наглядам Кацярыны II дыпламаты Расіі, Прусіі і Аўстрыі падпісалі ў Пецярбургу канвенцыю) Станіслаў Аўгуст Панятоўскі спрабаваў пратэставаць і звярнуўся да еўрапейскіх двароў, але ніводная дзяржава не прыйшла яму на дапамогу. Суседнія манархі ва ўмовах чарговай расійскай акупацыі (расійскія войскі, якія змагаліся з барскімі канфедэратамі, заставаліся ў краіне і гарантавалі падзел) падзялілі дзяржаву. Расія забрала тэрыторыю з гарадамі Дынабург, Полацк, Віцебск, Орша, Магілёў і мястэчкам Гомель. Прусіі Кацярына II згадзілася аддаць Памор'е, а Аўстрыі — Галіцыю (Заходнюю Украіну) і паўднёвую частку Польшчы.

Пасля першага падзелу Станіслаў Аўгуст Панятоўскі паступова ўзмацніў сваю ўладу падчас барацьбы за ўладу паміж markнымі магнацкімі групоўкамі. У 1775г. была створана Пастаянная рада, якая складалася з караля, 18 сенатараў і 18 дэпутатаў сойму, у 1773г. — Эдукацыйная камісія (першае ў Еўропе міністэрства адукацыі). Былі прыняты рашэнні, накіраваныя на паляпшэнне гандлю і прававога становішча гараджан, на развіццё прамысловасці. Кароль пераўтварыў Пастаянную раду ў орган цэнтральнай выканаўчай улады і імкнуўся ліквідаваць анархічны дзяржаўны лад.

Але прыйшлося Станіславу Аўгусту пайсці на кампраміс з Кацярынай II і прызнаць над сабой кантроль расійскага пасла графа А.М. фон Штакельберга. Гэтым ён на пэўны час захаваў абарону тэрыторыі Польшчы ад далейшай прускай і аўстрыйскай анексіі. С.А.Панятоўскі дамагаўся ад Кацярыны II саюзу і яе згоды на павелічэнне арміі і правядзенне рэформаў, а таксама на забеспячэнне спадчыннасці трону для свайго пляменніка Станіслава Панятоўскага (1751 — 1833), які быў шэфам гвардыі пешай кароннай, а потым падскарбіем вялікім літоўскім у 1784 —1791гг. На сойме 1776г. каралю ўдалося абмежаваць уладу гетманаў і падпарадкаваць войска. Але правядзенне далейшых рэформаў Расія не дазваляла. Супраць караля Расія падтрымлівала магнацкую апазіцыю на чале з гетманам вялікім каронным графам Я.К.Браніцкім, а пазней ваяводам рускім графам С.Ш.Патоцкім.

І ўсё ж такі каралю ўдалося ў 1775 — 1778гг. стварыць сваю групоўку, у якую ўвайшлі нават былыя канфедэраты. Гэта добра паказаў Адам Міцкевіч у асобе Мацька пад Мацькамі, які "з канфедэрата стаўся прыхільнікам караля і падтрымліваў Тызэнгаўза, падскарбія літоўскага".

Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падтрымліваў асветніцтва і адукацыю, быў мецэнатам, ініцыятарам выдання газеты "Манітор", апекаваўся тэатрам і мастацтвам, намагаючыся падняць прэстыж Рэчы Паспалітай ў Еўропе. Пры двары Станіслава Аўгуста былі сабраны лепшыя мастакі і скульптары. У гэты час быў перабудаваны Каралеўскі палац у Варшаве, палацавы ансамбль у Лазенках. Кароль адчыніў пры палацы мастацкую школу, высылаў стыпендыятаў на вучобу за мяжу. Ён збіраў калекцыі гіпсавых бюстаў, гэм і камей, манет, сабраў галерэю карцін. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі рыхтаваў адкрыццё акадэміі мастацтва, акадэміі навук і літаратуры, нацыянальнага музея. Асабіста падтрымліваў адкрыццё мануфактур, у тым ліку на Беларусі (з дапамогай А.Тызэнгаўза), спрыяў прамысловай здабычы солі.

## АПОШНІЯ ГАДЫ ПАНАВАННЯ

Адносная раўнавага ў палітычным жыцці Рэчы Паспалітай была пахіснута дзеяннямі апазіцыі, якая прадстаўляла шырокія колы прагрэсіўнае шляхты і мяшчан (шляхецка-буржуазнага блоку). Гэты блок на Чатырохгадовым сойме (1788 — 1792гг.) правёў шматлікія і грунтоўныя рэформы, набліжаючы дзяржаўны лад Рэчы Паспалітай да рэвалюцыйных змен Вялікай Французскай рэвалюцыі канца XVIII ст.

Кароль, насуперак жаданню расійскага пасла ў Варшаве графа А.М. фон Штакельберга, пайшоў на пагадненне з рэфарматарамі, кіраўнікамі сойму, супрацоўнічаў з імі. У снежні 1790г. ён перадае ў сойм свой праект рэформы дзяржаўнага ладу, у якім прапаноўваў больш моцны манархічны лад і мадэрнізацыю дзяржаўнага апарату, але захоўваў саслоўны парадак. У значнай ступені прапановы караля былі ўспрыняты рэфарматарамі ў прынятай 3 траўня 1791 года канстытуцыі (соймавай уставе). Гэта падняло аўтарытэт караля, асабліва сярод мяшчанства, якому былі нададзены пэўныя правы.

У 1792г. збройная інтэрвенцыя Расіі спыніла рэформы. Праціўнікі рэформаў — удзельнікі Таргавіцкай канфедэрацыі, — ідучы ў абозе царскіх войскаў, захапілі ўладу ў Вялікім княстве Літоўскім і Польшчы. Да канфедэрацыі далучыўся і кароль, санкцыянаваўшы інтэрвенцыю і скасаванне рэформаў Чатырохгадовага сойму. На караля легла адказнасць як на капітулянта, які спыніў збройны адпор інтэрвентам. Цяпер Кацярына II трымала свае войскі ў Рэчы Паспалітай пастаянна. Кіраўнікі рэфарматараў вымушаны былі эміграваць і рыхтавалі паўстанне ў Польшчы, Беларусі і Літве. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падчас працы апошняга сойму Рэчы Паспалітай у Горадні (улетку 1793г.) ужо дзейнічаў цалкам пад кантролем расійскага пасла графа Я.Я.Сіверса, калі сойм мусіў пагадзіцца з другім падзелам Рэчы Паспалітай, ад якой Кацярына II адарвала цэнтральную частку Беларусі і Правабярэжную Украіну, а Заходнюю Польшчу аддала Прусіі. Станіслаў Аўгуст санкцыянаваў вынікі другога падзелу Рэчы Паспалітай.



Падчас паўстання 1794г. ў Польшчы, Беларусі і Літве пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, які быў начальнікам паўстання, кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі быў адхілены ад улады і займаў фармальнае становішча. Ён нават асцерагаўся за сваё жыццё. Яго малодшы брат, Міхал Ежы, арцыбіскуп гнезненскі, абвінавачаны ў здрадзе на карысць Прусіі і Расіі, каб пазбегнуць лінчавання натоўпам, скончыў жыццё самагубствам.

Пасля паражэння паўстання 1794г. Станіслаў Аўгуст па загадзе Кацярыны II выехаў з Варшавы ў Горадню, дзе жыў у каралеўскім палацы да смерці Кацярыны II. У Горадні ён даведаўся аб трэцім падзеле Рэчы Паспалітай і ліквідацыі дзяржавы. Тут 25 лістапада 1795г. ён падпісаў акт адрачэння ад кароны на карысць Кацярыны II. Гэтым актам спынялася існаванне Рэчы Паспалітай і дзяржаўнасці Польшчы і Беларуска-Літоўскага гаспадарства. Калі Кацярына II памерла (лістапад 1796г.), Павел I выклікаў Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў Санкт-Пецярбург, дзе кароль пражыў да канца жыцця. Яму быў захаваны тытул караля і невялікі двор. Павел I ставіўся да яго з сімпатыяй і нават аднойчы пацікавіўся ў Панятоўскага, ці не з'яўляецца ён ягоным бацькам, як некаторыя гаварылі, але Панятоўскі не мог даць пэўнага адказу.

Кароль пісаў мемуары, у якіх апраўдваў сваю палітыку. Памёр ён у Санкт-Пецярбургу ў Мармуровым палацы 12 лютага 1798г. і быў пахаваны ў каталіцкім касцёле на Неўскім праспекце. У 1938 годзе рэшткі яго праху былі перададзены савецкім урадам польскім уладам і перахаваны ў Троіцкім касцёле ў Воўчыне (Брэсцкая вобласць), дзе нарадзіўся Станіслаў Аўгуст. Пасля другой сусветнай вайны грабніца з прахам караля была разрабавана. Урна з прахам караля была разбіта настаўніцай-камсамолкай. У канцы 80-х гадоў XX стагоддзя сімвалічны прах караля быў забраны польскімі навуковымі супрацоўнікамі ў Польшчу. Ад Троіцкага касцёла засталіся рэшткі. Пасля вайны ён выкарыстоўваўся як збожжасховішча.

У 1784г. Станіслаў Аўгуст уступіў у марганатычны (законны, але без права перадачы каралеўскай годнасці шлюб з удавой генерал-інспектара войска Літоўскага Эльжбетай Грабоўскай і меў ад яе сына, які насіў прозвішча Грабоўскі. Пляменнік караля — Юзаф (1763 — 1813) — меў тытул ваеннага міністра і галоўнакамандуючага войскамі Варшаўскага вялікага княства, камандуючага 5-м (польскім) корпусам арміі Напалеона падчас франка-расійскай вайны 1812г., пазней ён — маршал Францыі. Ад сына старэйшага брата караля захавалася патомства, якое жыве ў Францыі. Адзін з князёў Панятоўскіх — Мішэль — у 1973 —1974гг. быў міністрам аховы здароўя і сацыяльнага забеспячэння, а ў 1974 — 1977гг. — міністрам унутраных спраў Францыі.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ**

*На здымках:*

1. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (1732 — 1798).
2. Тадэвуш Касцюшка — кіраўнік паўстання 1794 года.
3. Драўляная скульптура XVIII стагоддзя (г.Слонім). Згублена ў 90-я гады XX стагоддзя.
4. Гродна. Жылы дом канца XVIII стагоддзя.
5. Магілёў. Нікольская царква. Ляпны дэкор галоўнага фасада.

# Нямецкі культурны цэнтр імя Гётэ ў Мінску прадстаўляе

GOETHE-INSTITUT

## УСПОМНІЦЬ МОВУ, НА ЯКОЙ ГАВАРЫЎ БОГ

### (да вераснёўскіх гастроляў Тэатра на Руры)

У верасні мы чакаем у госці славуты Тэатр на Руры, што ў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія. Але перад гастролямі Культурны цэнтр Інстытута імя Гётэ даў магчымасць нашым рэжысёрам і журналістам сустрэцца з кіраўніком тэатра Раберта Чулі, і гэтая размова дала магчымасць зазірнуць у лабараторыю тэатра, які пачынаў з таго, што большасць гледачоў абурана пакідала спектаклі, пратэстуючы супраць ягоных трактовак класікі, а ў 1988 быў названы "тэатрам года" і цяпер вядомы далёка за межамі Германіі. Непаўторнасць творчага почырку, гнуткая сістэма арганізацыі працы тэатра, структура яго фінансавання дазволілі стварыць нетрадыцыйную, так званую "мюльхаймскую" мадэль тэатра, названую так па назве горада Мюльхайма, які адгукнуўся на прапанову італьянца Чулі і свайго суайчынніка Шэфера стаць трэцім сузаснавальнікам таварыства з абмежаванай адказнасцю —Тэатра на Руры. Атрымліваючы субсідыі ад горада і федэральнай зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія, пры агульным бюджэце ў 5,3 мільёна марак, тэатр самастойна зарабляе 2,6 мільёна продажам спектакляў іншым гарадам і тэатрам.

Але на сустрэчы з Раберта Чулі гаворка ішла пра агульныя прынцыпы патрабаванняў мастацтва да сучаснасці і сучаснасці да мастацтва. З фрагментамі гэтай гаворкі мы і прапануем вам пазнаёміцца.

*— Мяне цікавіць перш за ўсё тэма — наш час. І для мяне важна, каб людзі, што працуюць са мной, адчувалі важнасць гэтай тэмы і неабходнасць працаваць над ёй. Скажам, мы цікавімся Югаславіяй і ўсім, што зараз адбываецца ў Босніі, і задаем сабе пытанне: "Як магчыма такое ў канцы стагоддзя, у наш час?" І адчуваем неабходнасць выказацца на гэтую актуальную тэму. Гэтая неабходнасць прыводзіць да высновы, што напрыклад, Шэкспір ягоным Макбетам дае нам такую магчымасць. Таму мы ставім "Макбета", і пры рабоце над гэтым (і любым іншым творам) дэвізам нашым з'яўляецца 1994 год, наша прастора, а не перанос на сцэну "Макбета" Шэкспіра. Той, хто ведае спектаклі па п'есе Горкага "На дне" альбо спектакль па п'есе Шэкспіра "Макбет", не пазнае гэтыя спектаклі на нашай сцэне. Калі ж нехта чытаў гэтыя творы, то пасля нашага спектакля ён скажа — гэта тое, што я чытаў, тое, што я бачу. А калі нічога з названых твораў не чытаў, то проста ўбачыць нейкую новую, невядомую яму гісторыю...*



*Непаразуменне з публікай напачатку было, мабыць, ад таго, што публіка спадзявалася ўбачыць тое, што ўжо ведала. Калі ж яна бачыць тое, чаго яшчэ не ведае, яна губляе ўпэўненасць у нечым. Гэта мы ўжо ведаем па іншых відах мастацтва. Але ў тых відах ёсць болей часу. Грамадства можа сабе дазволіць не разумець Ван Гога ў часы Ван Гога. А праз сто гадоў у любым больш-менш багатым буржуазным доме вісяць ягоныя творы... Што ж тычыць тэатра, то за стогадовы тэрмін акцёры паспеюць памерці... Тэатр — гэта мастацтва імгнення...*

Раберта Чулі расказваў пра тое, што не зразумелы нямецкім гледачам тэатр адправіўся за мяжу, дзе, не ведаючы нямецкай мовы, публіка спасцігла глыбінны сэнс ягоных спектакляў лепей, чым дома, таму што, робячы спробу пераадолець моўны бар'ер, тэатр шукаў іншую, больш універсальную мову. І, вярнуўшыся ў Германію, трупа адчула — іх пачынаюць разумець і на радзіме.

*— Што гэта за універсальная мова, да якой мы паспрабавалі наблізіцца? Магчыма, гэта тая, на якой Бог упершыню звяртаўся да чалавека. А Бог, вядома, не гаварыў ні на нямецкай, ні на італьянскай, ні на рускай мовах. І ўвогуле — розныя мовы былі чалавецтву пакараннем. Дый хіба мы не бачым, як, нават гаворачы на адной мове, людзі не разумеюць адзін аднаго? Калі б была мова, на якой можна было б выказаць агульначалавечую значнасць такіх паняццяў, як ненавісць, пакуты, каханне, — чалавецтва было б іншым. Але такой мовы фармальна няма — як няма і раўнавагі між рознымі мовамі. Мова народаў, што эканамічна больш моцныя, і значыць болей; Еўропа, напрыклад, гаворыць на англійскай, французскай, нямецкай, можа, іспанскай, італьянскай мовах... але ніяк не на польскай і тым больш пакуль што не на беларускай. (А я заўсёды спадзяюся, што некалі дзеці будуць вучыць у школах і мову сухілі...)*

Можа, гэтым пачуццём справядлівасці дыктуецца вялікае жаданне Раберта Чулі супрацоўнічаць з краінамі менш развітымі, і таму замежныя тэатры, якія дзякуючы яму гастралююць у Германіі, прадстаўляюць не столькі саміх сябе, колькі тэатральны ландшафт той ці іншай краіны. Тры гады, з 1986 па 1988 год, немцы атрымлівалі цэласнае ўяўленне аб тэатральнай культуры Югаславіі, затым Польшчы. У 1993 годзе ў Мюльхайме адбылася першая прэзентацыя тэатраў Расіі. Шмат цёплых слоў сказаў кіраўнік Тэатра на Руры ў адрас Інстытута імя Гётэ, з якім ён супрацоўнічае вось ужо 14 гадоў і які нясе самую значную частку расходаў на гастролях тэатра.

*— Вельмі важна тое, што менавіта дзякуючы Інстытуту імя Гётэ мы робім шмат для таго, каб і да нас, у зямлю Паўночны Рэйн-Вестфалія, прыязджалі іншыя тэатры. Нам удалося пераканаць многіх прадстаўнікоў розных устаноў, што палітыка экспарту ў галіне культуры можа быць паспяховай толькі ў тым выпадку, калі паралельна праводзіцца і палітыка імпарту культуры. Што яшчэ дарага для мяне? Тое, што супрацоўніцтва інстытута не замыкаецца ў межах толькі нямецкай культуры і нямецкай мовы, і мы ніколі не адчувалі ніякага ціску з іх боку на гэты конт. Нездарма ў рэпертуары нашых гастроляў стаяць імёны Горкага і Шэкспіра, Брэхта і Чэхава і многіх іншых аўтараў. Для мяне такія адносіны асабліва важныя таму, што я для Германіі іншаземец, эмігрант (пашпарт у мяне італьянскі). І хаця Германію папракаюць (і нам даводзіцца з гэтым сутыкацца) у яскрава выказваемай непрыязнасці да іншаземцаў — тым не менш, у якой яшчэ краіне Міністэрства культуры стала б выдаткоўваць 400 тысяч марак у год на цыганскі тэатр, які вось ужо два гады ўваходзіць у склад Тэатра на Руры? Упэўнены, што гэтага б не зрабілі ні ў Англіі, ні ў Італіі.*

Можа, яшчэ і таму, што знаходзіць у гэтай краіне радкае разуменне пастаўленых ім задач, Раберта Чулі гаворыць з пяшчотай пра мову, на якой ён працуе і якая стала для яго роднай. На яго думку, італьянцы, французы і нават англічане валодаюць сцэнічнай мовай. Але акцёр на сцэне гаворыць інакш, чым у жыцці. Нямецкая ж мова дае магчымасць гаварыць аднолькава і на сцэне, і ў жыцці, таму яму так добра працуецца менавіта з нямецкімі акцёрамі... Такой жа здольнасцю валодаюць і славянскія акцёры.

Гаворка ішла і аб перспектыве жыцця тэатра як з'явы мастацтва.

*— Мы знаходзімся ў цэнтры працэсу дэмантажу культурнага ландшафту, і гэты працэс прагрэсуе. А структурным крызісам нямецкага тэатра заканчваецца трохсотгадовая еўрапейская традыцыя.*

*... Мы будзем з нецярпеннем чакаць гастроляў тэатра, які мае абрэвіятуру "T.a.d.R." — "Тэатр на ўзбочыне", тэатра, які ідзе "супраць плыні" і ўпарта шукае мову, на якой з першым чалавекам гаварыў Бог...*

**Вольга ІПАТАВА**

*На здымку аўтара:*

Раберта Чулі і Вера Багальянц, дырэктар Культурнага цэнтра Інстытута імя Гётэ ў Мінску, падчас сустрэчы ў Рускім тэатры.

## МАСТАЦТВА ЗАЎСЁДЫ ЗАСТАНЕЦЦА...

5 ліпеня, вось ужо пяты раз, у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адкрылася чарговая выстава па ініцыятыве Нямецкага культурнага цэнтра імя Гётэ ў Мінску. Кожны раз гэтае мерапрыемства, разлічанае перш за ўсё на знаёмства беларускага гледача з лепшымі творамі нямецкіх мастакоў, ператвараецца ў нешта большае — магчымасць для нашай інтэлігенцыі сустрэцца ў нязмушанай, сяброўскай атмасферы, пагаварыць пра стан сучаснага мастацтва, падыскутаваць і ўвогуле прычасціцца да складанай, поўнай пошукаў атмасферы еўрапейскага мастацтва. На гэты раз мы сустрэліся з літаграфіяй і гравюрамі на дрэве Эрнста Барлаха.



Творчасць Эрнста Барлаха (1870 — 1938) карыстаецца ў Германіі папулярнасцю, да якой можна ставіцца крытычна. Чатыры музеі Барлаха (у Гамбургу, Ратцэбургу, Ведэле і ў Гюстраве) сведчаць аб грамадскім прызнанні, якога не ўдастойваўся ні адзін з іншых нямецкіх мастакоў.

"Калі я хацела арганізаваць такую выставу ў Англіі, — сказала спадарыня Вера Багальянц, якая ўзначальвае Культурны цэнтр імя Гётэ, — мне запярэчылі, маўляў, работы Барлаха маюць агрэсіўны, адмоўны характар і нясуць у сабе своеасаблівы тэўтонскі дух. Але мне здаецца, што ў працах Барлаха вельмі магутна гучыць уплыў, які аказала на мастака Расія, па якой ён падарожнічаў і дзе знайшоў тое, што шукаў даўно і што дапамагло яму напоўніць свае творы глыбокім сэнсам".

**Цікава было і пагаварыць з тымі, хто прыйшоў на адкрыццё выставы. Вось якімі думкамі падзяліўся з намі мастак Аляксей Марачкін:**

*— У мяне вялікая асабістая любоў да Эрнста Барлаха, таму што, па-першае, у яго працах адчуваецца вялікі ўплыў славянства. Па-другое, калі я быў студэнтам, у Савецкім Саюзе, у Маскве, у Пушкінскім музеі, была ўпершыню наладжана выстава Барлаха. Мы, студэнты, паехалі туды, і памятаю сваё ўражанне, што я падобнага раней проста не бачыў. Асабліва ўразілі яго анёлы, жанчыны — дрэва нібы гаварыла. Я ўлавіў сувязь нават з нашай драўлянай скульптурай — яна такая акруглая, аб'ёмная... Мікеланджэла казаў: "Калі кінеш скульптуру з гары, дык лішняе ўсё адваліцца". У Барлаха ў такім разе нічога не адваліцца, у яго ўсё адшліфавана і на месцы. У нас на Беларусі толькі, мабыць, Лёня Давыдзенка мог бы працаваць з дрэвам на такім узроўні. Я збіраюся прыйсці сюды яшчэ раз, каб лепей усё прагледзець, падумаць, паразважаць...*

**Анатоль Бутэвіч, міністр культуры і друку, на пытанне, чаго болей у яго наведванні — службовага абавязку або цікавасці да Барлаха? — адказаў:**

*— Перш за ўсё я выкарыстаў магчымасць пабачыць у сваёй краіне тое, што можна пагледзець толькі ў замежжы, куды мы не заўсёды можам паехаць. Такая выстава дае магчымасць для ўсіх тых, хто лічыць сябе дзеячам культуры, бачыць, што адбываецца ў свеце і лепей ацэньваць уласны працэс развіцця культуры. Увогуле, я калісьці казаў і шчыра лічу, што культура павінна быць над усім — над палітыкай, эканомікай, тым больш над усялякага роду сваркамі. Калі б так было, мы пазбеглі б многіх нашых бедаў, магчыма, нават Чарнобыля, іншымі былі б сёння і жанчыны, і дзеці.*

*А ўвогуле — якім бы складаным ні было жыццё, мастацтва заўсёды застанецца.*

**Саветнік па культуры пасольства Францыі ў Беларусі Аляксандр Талстой, у якога мы спыталі, якімі мастацкімі выставамі зможа парадаваць нас Францыя, адказаў:**

*— На апошні квартал гэтага года прызначана першая наша мастацкая выстава, у канцы кастрычніка мы хочам наладзіць паказ французскай кнігі. Але затое, як вы заўважылі, мы праводзім кінафестывалі. У гэтым годзе іх прайшло чатыры, з паказам лепшых французскіх фільмаў, аповедамі пра акцёраў, кінарэжысёраў і інш. Мы знаёмілі беларускага гледача з лялечным тэатрам, творамі французскага джаза... У кастрычніку сюды прыедуць музыканты Луўра з праграмай "Музыка барока", а ў снежні вы зможаце паглядзець п'есы са спадчыны драматурга XVIII стагоддзя Марыбо.*

*На жаль, карціны сюды мы не можам часта прывозіць з-за вельмі дарагой страхоўкі, ды і Францыя ўсё ж далей ад Беларусі, чым Германія.*

Цікавых сустрэч на выставе было яшчэ шмат, але абмяжуемся папярэднімі. Трэба дадаць, што падрыхтаваў выставу Эрнста Барлаха Інтытут замежных сувязяў Штутгарта пры вялікім удзеле доктара Ханса Дзітэра Цыглера, які не толькі адкрыў імпрэзу, але і прыняў актыўны ўдзел у гутарках пра мастацтва, якое сапраўды стаіць па-над нашымі клопатамі і якім мастакі за нас адказваюць на пытанне, якое задаюць сабе ўсе, хто жыве Духам: "Хто мы ў гэтым свеце і якое наша месца ў ім?"

**Ягор ФЯДЗЮШЫН**

*На здымках :*

1. Фрагмент выставы з аўтапартрэтам Барлаха на першым плане.

2. Пані Турбота. 1924г. Літаграфія.

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**






## СЕРАДА, 20 ЛІПЕНЯ

### Беларускае тэлебачанне

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Інтэрв'ю з народным пісьменнікам Беларусі В.Быкавым.
8.50. Пяць хвілін на жарты.
8.55. Надвор'е.
9.05. На чым трымаецца зямля?
9.25. Да Дня незалежнасці. "Край". Канцлер Леў Сапега.
10.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Пасля заканчэння — Першы Міжнародны фестываль фальклору; "Маналог з адступленнямі". Дак. фільм; Ало! Ёсць пытанне. Госць студыі — біяэнергетык І.Фількевіч.
15.05. "Голас дзяцінства".
16.00. Пра шахматы і шахматыстаў.
16.30. Відзьма-нявідзьма.
17.30. Навіны.
17.40. "Ганна Ахматава. Рэквіем". Дак. фільм.
18.10. Абласныя навіны (Гомель).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. "Карамболь". Ток-шоу з удзелам спевака М.Шуфуцінскага.
19.30. "Прышэлец". Дак. фільм.
19.45. Абрыс.
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Студыя "Формула".
23.00. Пад купалам Сусвету.
23.10. НІКа.
23.25. Надвор'е.
23.35. "Жанчына без забабонаў". 1-я серыя.

### Канал "Астанкіна"

8.15. "Баяка муху не пакрыўдзіць" і інш. мультфільмы.
8.25. "Дзікая ружа".
8.55. Клуб падарожнікаў.
9.45. Дзелавы веснік.
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
15.25. "Вайна гобатаў".
15.50. Дзённік дзіцячага кінафестывалю.
16.10. "Лятаючы дом".
16.40. Тэлерадыёкампанія "Мір".
17.25. Свет сёння.
17.40. Тэхнадром.
17.50, 20.35. Надвор'е.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая ружа".
18.55. Кінапанарама.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Жараб'ёўка Лігі чэмпіёнаў па футболу.
21.10. Маналог.
21.20. "Шоу-бой".
23.15. Арт-кур'ер.
23.45. "Акно ўначы".
0.15. Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30. Ранішні канцэрт.
8.50. "Санта-Барбара".
9.40. Тэлегазета.
9.50. "К-2" прадстаўляе: "Ведай нашых".
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Студыя "Рост". "Прызма".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія. "Далёкі Усход".
16.50. Казкі пра бацькоў. "За парогам дома".
17.25. Я — лідэр.
17.50. Свята кожны дзень.
18.00. "Тайны немадрыдскага двара". І.Штэмлер.
18.50. "Пяць хвілін аб добрым жыцці".
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара".
20.25. Ніхто не забыты.
20.30. Шостае пачуццё.
21.05. На палітычным Алімпе.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Экран крымінальных паведамленняў.
22.45. Экзотыка.

### Санкт-Пецярбург

12.00. Бізнес-выпуск.
12.10. Чароўная лінія.
12.25. "Нямецкая хваля".
13.00. Хуткая дапамога.
13.30. "Каміла, ці Нераскрытыя тайны".
14.15. Тэлемагазін.
14.20. "Набярэжная навукі". Дак. фільм.
14.30, 18.30, 21.45. Інформ ТБ.
14.45. "Сірано дэ Бержарак".
16.15. Урок нямецкай мовы.
16.40. "Еўрапейскі калейдаскоп".
17.00. "Паўночныя званы".
17.30. "Пачынаецца расказ".
18.00. "Скарбніца мудрасці" і інш.
18.55. "Па ўласным жаданні".
19.05. "Каміла, ці Нераскрытыя тайны".
19.50. Блеф-клуб.
20.30. Тэлеслужба бяспекі.
20.40. Адраджэнне Балаама.
21.00. Прэм'ера студыі "Лентэлефільм".
21.10. Музычны момант.
21.25. Тэлемагазін.
21.30. Будні.
22.00. Спорт, спорт, спорт...
22.10. Ваш стыль.
22.20. "Дванаццаць крэслаў". 2-я серыя.

### 8 канал

18.00 Шматсерыйны фільм для дзяцей "Карусель".
18.25 Кубак "Поршэ".
18.35 СОЛТЭК. Навіны.
18.45 Мультсерыял "Вальтрон".
19.10 Паліцэйскі серыял "Хіл Стрыт Блюз".
20.00 Студыя "Рэкорд" прастаўляе мультыплікацыйны фільм Уолта Дыснея.
20.30 Тэлесерыял "Марэна Клара".
21.35 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе мастацкі фільм.

## ЧАЦВЕР, 21 ЛІПЕНЯ

### Беларускае тэлебачанне

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. "Полацкая пячатка".
8.40. Першы Міжнародны фестываль фальклору.
9.40. Пяць хвілін на жарты.
9.45. Тэлевізійны Дом кіно.
10.35. Да Дня незалежнасці.
16.10. "Дах для ўсіх".
16.45. Вобраз. Літаратурны тэлечасопіс.
17.30. Навіны.
17.40. Існасць.
18.10. Абласныя навіны (Гродна).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Зачытайце маё пісьмо...
19.05. Крымінальная хроніка.
19.25. "Гэтыя даўгавечныя сосны..."
20.10. "А дзе мне ўзяць такую песню..."
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пяць хвілін на жарты.
21.40. Пад купалам Сусвету.
21.50. Надвор'е.
22.00. НІКа.
22.15. "Славянскі базар-94".
23.45. "Жанчына без забабонаў". 2-я серыя.

### Канал "Астанкіна"

8.35. "Дзікая ружа".
9.05. У свеце жывёл.
9.45. Прадпрымальнік.
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.25. Навіны.
15.25. "Вайна гобатаў".
15.55. Мульцітролія.
16.10. ...Да 16 і старэйшым.
16.40. Планета пад небам Неапаля.
17.25. Дакументы і лёсы.
17.40. Загадка СБ.
17.50, 20.30. Надвор'е.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая ружа".
18.55. Прыватнае жыццё Аляксандра Шырвінта.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. Масква—Крэмль.
21.00. Лато "Мільён".
21.30. "Прама ў сэрца".
23.40. Спявае Алена Казанцава.
0.10. Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30. Тэлегазета.
8.35. Паехалі.
8.45. "Санта-Барбара".
9.35. Чароўны куфэрачак.
9.45. Дзённік фестывалю "Славянскі базар-94".
9.50. Зусім сакрэтна.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Студыя "Рост". Фестываль "Белыя ночы". Частка 1-я.
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія. "Штрыхі да партрэта".
16.50. М-трэст.
17.05. Будні.
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. У свеце аўта — і мотаспорту.
18.25. Свая гульня.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. Сам сабе рэжысёр.
21.00. Яўгеній Лявонаў. Вечар памяці артыста.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. "Пан Валадыеўскі". 1-я серыя.

### Санкт-Пецярбург

12.00. Бізнес-выпуск.
12.10. Чароўная лінія.
12.25. "Нямецкая хваля".
13.00. Хуткая дапамога.
13.00. "Аляксандр Неўскі".
14.30, 18.30, 21.45. Інформ ТБ.
14.45. "Салодкая жанчына".
16.20. "Графіка". 2-я частка.
16.45. "Майстры — залатыя рукі".
17.05. Музыка — дзецям. Спяваюць і іграюць нахімаўцы.
17.30. Рэформа і ўлада.
18.00. Парады садаводам.
18.15. "Ох, адпачыў".
18.55. "Ціхая дама" Сяргея Шалахава.
20.00. О-ля-ля.
20.25. Тэлемагазін.
20.35. Тэлеслужба бяспекі.
20.45. Гадзіна ў квадраце.
22.00. Гульні добрай волі. Спецыяльны выпуск.
22.30. Ваш стыль.
22.40. "Вячэрні звон". Музычны канал.

### 8 канал

18.00 Шматсерыйны фільм для дзяцей "Карусель".
18.20 Тэлежурнал "Нямецкая хваля".
18.50 Мультсерыял "Вальтрон".
19.10 Тэлесерыял "Лабірынт правасуддзя".
20.00 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе мультыплікацыйны фільм Уолта Дыснея.
20.30 Тэлесерыял "Марэна Клара".
21.35 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе мастацкі фільм.

## ПЯТНІЦА, 22 ЛІПЕНЯ

### Беларускае тэлебачанне

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Эканамікст.
8.20. Пад купалам Сусвету.
8.30. Надвор'е.
8.40. "Карамболь". Ток-шоу з удзелам спевака М.Шуфуцінскага.
9.10. Пяць хвілін на жарты.
9.15. Першы Міжнародны фестываль фальклору.
10.15. Да Дня незалежнасці. "Край". Іграе Дамейка.
16.50. ПІК.
17.00. "І матчыных напеваў успамін".
17.30. Навіны.
17.45. Студыя "Тэлесябрына".
18.00. Эканамікст.
18.10. Абласныя навіны.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Сустрэча з прадстаўнікамі прадпрыемстваў недзяржаўных форм уласнасці.
19.30. "Памяць сэрца".
20.05. Рэйтынг.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пяць хвілін на жарты.
21.40. "Свабоднае падзенне".
23.00. Пад купалам Сусвету.
23.10. Надвор'е.
23.20. "Славянскі базар-94".

### Канал "Астанкіна"

8.15. "Сарока". Дзіцячая інфармацыйная праграма.
8.45. "Гарачаў і іншыя".
9.15. Дапамажы сабе сам.
9.45. Бізнес-клас.
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
15.25. "Прыгоды Бураціна". 1-я серыя.
16.50. Азбука ўласніка.
17.25. Мініяцюра.
17.35. Знак пытання.
17.45, 20.35. Надвор'е.
17.50. Чалавек і закон.
18.20. "Гарачаў і іншыя".
18.50. Поле цудаў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Чалавек тыдня.
21.05. "Дэн Огаст".
22.10. "Погляд" з А.Любімавым.
23.10. Музагляд.
23.55. Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30. Тэлегазета.
8.35. Паехалі.
8.45. "Санта-Барбара".
9.35. "Капітан Нема". 3-я серыя.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія.
16.50. "Адна супраць усіх". 1-я серыя.
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. Фільм-прэм'ер.
18.10. Міжнародны конкурс вакалістаў імя М.А.Рымскага-Корсакава.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара".
20.25. Дзённік фестывалю "Славянскі базар-94".
20.30. "Гарадок". Забаўляльная праграма.
21.05. "К-2" прадстаўляе: "Пацалунак у дыяфрагму".
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. "Пан Валадыеўскі". 2-я серыя.
24.00. Прыватная калекцыя.

### Санкт-Пецярбург

12.00. Бізнес-выпуск.
12.10. Чароўная лінія.
12.25. "Нямецкая хваля".
13.00. Хуткая дапамога.
13.30. "Жыццё маё — опера".
14.30, 18.30, 21.45. Інформ ТБ.
14.45. Тэлемагазін.
14.50. "Дванаццаць крэслаў". 1-я і 2-я серыі.
17.30. "Баламуцкія сустрэчы".
17.55. "Худайберды-асілак" і інш.
18.55. "Легенда аб Сурамскай крэпасці".
20.45. Тэлеслужба бяспекі.
20.55. Прэм'ера студыі "Лентэлефільм".
21.25. Тэлемагазін.
21.30. Будні.
22.00. Гульні добрай волі. Спецвыпуск.
22.30. Ваш стыль.
22.40. "Ракавая доза".

### 8 канал

18.00 Шматсерыйны фільм для дзяцей "Карусель".
18.25 СОЛТЭК. Дорэміфасолькі.
18.35 Мультсерыял "Вальтрон".
19.00 Мастацкі фільм з серыі "Бацька Мэрфі".
19.50 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе мультыплікацыйны фільм Уолта Дыснея.
20.20 Тэлесерыял "Марэна Клара".
21.10 Пісьменнікі гумарысты.
21.20 Foxy music (паўтор).
22.05 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе мастацкі фільм.

## СУБОТА, 23 ЛІПЕНЯ

### Беларускае тэлебачанне

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Надвор'е.
8.30. Пяць хвілін на жарты.
8.35. "Свабоднае падзенне".
9.55. "Добрая казка".
10.10. Паказвае Віцебск.
11.10. "Сталіца". Тэлечасопіс.
11.30. "Трэцяя ракета".
13.10. 20 мінут рэдактара.
13.30. Барбі-лато.
14.00. Пад крылом Еўфрасінні. Частка 1-я.
14.45. Дзесяць запаведзяў. Перадача 10-я.
15.15. "Нов і К"-топ-10.
16.15. Асілак. Тэлевізійны спартыўны клуб.
17.05. "Чарапашкі ніндзя".
17.35. "Славянскі базар-94".
19.35. "Шматгалоссе". Бежанцы. Прамая лінія.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пяць хвілін на жарты.
21.40. "Не будзіце спячага сабаку".
23.50. Пад купалам Сусвету.
24.00. "Каскад".
0.15. Відзьма-нявідзьма.

### Канал "Астанкіна"

7.00. Суботняя раніца дзелавога чалавека.
7.45. Слова пастара. Мітрапаліт Кірыл.
8.00. Марафон-15 — малышам.
8.30. Тэлерадыёкампанія "Мір".
10.00. Ранішняя пошта.
10.30. Я — жанчына.
11.00. Навіны культуры.
11.10. Смак.
11.25. Пераадоленне.
11.55. Фільмы нашай памяці. "Утаймавальнікі веласіпедаў".
13.25. Кніжны двор.
14.00, 23.05. Навіны.
14.20. Лабірынт.
14.50. "Кэтвізл".
15.20. "Трэба чуць прыгажосць".
15.50. "Жыццё заапаркаў".
16:30. Чалавек і закон. Спецвыпуск.
16.40. Цудоўная сямёрка.
17.35. Бамонд.
17.55. Да і пасля...
18.45. "Б'юлаленд".
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны плюс.
20.35, 23.15. Надвор'е.
20.45. "Камісар".
21.40. Оба-на.
22.25. На Гульнях добрай волі.
23.25. "Восъ мы якія..."

### Канал "Расія"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00. Весткі.
8.40. Парламенцкі тыдзень.
9.20. Рэтра-шлягер. У.Высоцкі.
9.50. Тэлеэрудыт.
9.55. На Гульнях добрай волі.
13.20. Непазнаны Сусвет.
13.50. XX стагоддзе ў кадры і за кадрам. В.Шукшын.
14.50. "К-2" прадстаўляе: "Зоркі Амерыкі".
15.20. Футбол без граніц.
16.15. Тэлеэрудыт.
16.20. Вуснамі дзіцяці.
16.55. Урачыстае адкрыццё Гульняў добрай волі.
19.25. Свята кожны дзень.
19.35. "Амерыка, Амерыка...". 1-я серыя.
21.25. Джэнтльмен-шоу.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Дзённік фестывалю "Славянскі базар-94".
22.40. Праграма "А".

### Санкт-Пецярбург

8.30. "Чароўная лінія".
8.45. Тэлевізійны фільм".
9.55. Гульні добрай волі. Плаванне.
12.40. "Дождж". Тэлеспектакль.
13.35. "Рамантычныя мініяцюры". Фільм-канцэрт.
13.55. Гульні добрай волі. Баскетбол.
15.50. "Марыяна першая".
16.20. "Рытм, рытм, рытм". Фільм-канцэрт.
16.35. Экспрэс-кіно.
16.55. Гульні Добрай волі. Цырымонія адкрыцця.
19.30, 21.45. Інформ ТБ.
19.55. "Верныя сябры".
22.00. Дзённік Гульняў добрай волі.
23.05. Ваш стыль.

### 8 канал

15.00 Мастацкі фільм "Прыгоды Электроніка", 1 і 2 серыі.
17.05 Мультсерыял "Трансформеры".
17.45 Прапаведнік Кенет Коупленд.
18.15 Прыгодніцкі серыял "Заліў Небяспечны".
19.00 "Як справы, дружа?"
19.30 Тэлесерыял "Кветка страсці".
21.00 СОЛТЭК. Спартыўная мазаіка.
21.30 Сем хвілін з "Хрыстафорам".
21.40 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе мастацкі фільм.

## НЯДЗЕЛЯ, 24 ЛІПЕНЯ

### Беларускае тэлебачанне

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Пяць хвілін на жарты.
8.25. Слова да чалавека.
8.55. Беларускі тур.
9.10. "Чарапашкі ніндзя".
9.40. ABC-клуб.
9.55. MTV. Лепшыя хіты.
10.25. Белыя і чорныя. Тэлевізійны шашачны клуб.
11.05. "Праспект".
11.35. Г.Вагнер. Сімфонія § 3 "Памяці матуль".
12.15. Вяскоўцы.
12.45. Пад крылом Еўфрасінні. Частка 2-я.
13.20. Мультдэтэктыў, ці Шоу з крадзяжом.
14.00. Ваўчок-шоу.
14.25. Служба 01.
14.35. Музычная праграма да Дня работнікаў пажарнай аховы.
15.35. "Трын-трава".
17.10. Тэлекрама.
17.20. Тэлеклуб "Гаў-гаў".
17.45. Дзелавы веснік.
18.00. "Чарапашкі ніндзя".
18.30. "Гінес-шоу".
19.00. Футбол. "Дынама-93" — "Нёман" (Гродна).
20.00. Панарама.
20.35. Пад купалам Сусвету.
20.40. Калыханка.
21.00. Пяць хвілін на жарты.
21.05. "Прызыўнікі".
22.00. "Славянскі базар-94".

### Канал "Астанкіна"

7.00. Алімпійская раніца.
7.45. Тыраж "Спортлато".
8.00. Марафон-15.
8.30. Раным-рана.
9.00. Палігон.
9.30. Пакуль усе дома.
10.00. Ранішняя зорка.
10.50. "Кантрольная для дарослых".
11.35. Малыя гарады Расіі.
12.05. Шпаргалка.
12.10. "Падводная адысея каманды Кусто".
13.00. Гульні добрай волі.
14.00, 17.20, 23.00. Навіны.
14.20. Тэлерадыёкампанія "Мір".
15.00. Жывое дрэва рамёстваў.
15.05. Амерыка з М.Таратутам.
15.40. "Баскетбольная ліхаманка", "Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды".
16.35. Гульні добрай волі.
18.40. Тэлелоцыя.
18.55. Надвор'е.
19.00. КВЗ-94.
21.00. Нядзеля.
21.50. Спартыўны уік-энд.
22.05. Кабарэ "Усе — зоркі".
23.10. Вестуны.

### Канал "Расія"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00. Весткі.
7.25. "Канікулы ў Прастаквашыне".
7.45. Здарова жывеш.
8.00. Студыя "Рост".
8.30. Добрай раніцы, Еўропа.
9.00. Лепшыя гульні НБА.
10.00. Аты-баты...
10.30. Правінцыяльныя пісьмы. "Прывідная граніца".
11.00. "Упершыню замужам".
12.35. Дзённік фестывалю "Славянскі базар-94".
12.40. Шэсць сотак.
13.20. "Не высечы...".
13.35. Каробка перадач.
13.50. "Ліпень". Відэазамалёўка.
14.00. У свеце жывёл.
14.55. "Дынама" (Масква) — ЦСКА.
17.00. "Гуфі і яго каманда", "Чорны плашч".
17.55. Свята кожны дзень.
18.05. "Залаты Астап". Гумарыстычная праграма.
19.25. "Амерыка, Амерыка...". 2-я серыя.
20.50. Кур'ер Гульняў добрай волі.
21.25. У Ксюшы.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. На Гульнях Добрай волі.

### Санкт-Пецярбург

7.45. "Гаючае слова". Праграма-набажэнства.
8.15. Дзённік Гульняў добрай волі.
9.20. "Клемянціна".
9.55. Лёгкая атлетыка.
11.00. "Нядзельны лабірынт".
12.25. Лёгкая атлетыка.
14.00. Экспрэс-кіно.
14.20. Казка за казкай.
15.05. Храм.
15.55. Плаванне.
17.00. Клуб "Класіка".
18.30. Інформ ТБ.
18.55. Баскетбол.
20.55. Адамаў яблык.
22.00. Дзённік Гульняў добрай волі.
23.00. Ваш стыль.

### 8 канал

15.00 Мастацкі фільм "Прыгоды электроніка", 3 серыя.
16.10 "Воінскія вікінгі" з цыкла "Гістарычныя баі".
17.00 Мультсерыял "Трансформеры".
18.05 СОЛТЭК. Тэлефэн. Вуліца.
18.35 Тэлесерыял "Кветка страсці".
20.55 Спорт-сакрэт.
21.10 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе мастацкі фільм.
22.40 Foxy music.

# Ці змогуць «нашы» заваяваць Амерыку?

***У артыкулах Аляксандра РОСІНА, прысвечаных праблеме "нашых" — артыстаў, вучоных, мастакоў, якія шукаюць шчасця за межамі радзімы, — закранаюцца праблемы грамадзян былога СССР, характэрныя і для беларусаў. Таму мы запрашаем да размовы пра лёс нашага мастацтва ва ўмовах рынку ўсіх, для каго яно дае сілы жыць і выжываць.***

— Мне часам здаецца, што я і не ад'язджаў з Саюза, —паўабярнуўшыся да мяне і толькі скосу паглядаючы на дарогу, гаварыў з незабыўным кіеўскім акцэнтам зухаваты нью-ёркскі таксіст. — Чорт яго ведае, але тут мы з жонкай былі на канцэртах такіх артыстаў, білеты на якія там, у Расіі, не заўсёды маглі дастаць: Пугачова, Лявонцьеў, Вайкуле, Ралан Быкаў... Забаўна, калі мы з'язджалі, былі ворагамі, а зараз — калі ласка, да нас, эмігрантаў, лепшыя артысты прыязджаюць, толькі купі білет. А я ўжо, бывае, нос варачу пераборліва: і тое бачыў, і гэта надакучыла. І — не іду... Я не ўсумніўся ў словах гэтага экс-кіеўляніна, што яму не так і цікава ісці на нашых "зорак", проста вельмі яшчэ свежыя ў памяці публікацыі "нашых" газет пра неверагодныя дасягненні і поспехі савецкіх эстрадных "зорак" за межамі неабдымнай.

Магчыма, зараз проста спад зацікаўленасці да нашай (назавем гэтым абагульняльным словам усіх артыстаў, якія пражываюць зараз у постсавецкіх краінах) эстрады? Разам з сынам я правёў міні-апытанне розных пластоў амерыканскага насельніцтва. Ён — сярод сваіх нью-ёркскіх аднакласнікаў, я — сярод знаёмых і калег па працы. Шкада, але факт: ні адзін з трыццаці апытаных намі амерыканцаў ва ўзросце ад 14 да 62 гадоў, featured рознага сацыяльнага становішча і інтэлектуальнага ўзроўню, не ведаў пра "зорак" нашай эстрады. "О, рашэн балет! Рашэн цырк! — гаварылі яны. — Святланаў! Растраповіч! Нурыеў! Барышнікаў!" "Як? —здзіўляліся мы з сынам. — Вы ніколі не чулі Пугачову? Не падпявалі Дабрыніну? Не кайфавалі ад "На-на"?! Нашы амерыканскія знаёмыя засмучана разводзілі рукамі.Усё ж я натрапіў на аб'яву аб канцэртах вядомага выканаўцы ў жанры псіхалагічных вопытаў Алега Фрыша. Адмаўляючы любую дыскрымінацыю, я не прызнаю яе і ў мастацтве. Камусьці падабаецца Чырванасцяжны хор імя Аляксандрава, камусьці — Махмуд Эсамбаеў, камусьці — Яраслаў Еўдакімаў і Леў Лешчанка, — далібог, гэта іхняя ўласная справа. І ўсё ж — каб ехаць у краіну, вядомую сваімі прадказальнікамі, экстрасэнсамі, з такім жанрам, у якім працуе Алег Фрыш, патрэбна быць альбо вельмі ўпэўненым у якасці свайго выступлення, альбо недаацэньваць спешчаных відовішчамі амерыканскіх гледачоў. Аднак жа Алег Фрыш меў і свайго гледача, і свой поспех.

*— Мне здаецца, — гаворыць Алег, — бяда нашых артыстаў у тым, што многія хочуць пераплюнуць Захад. Калі я ехаў сюды, думаў аб адным: трэба проста добра працаваць, а будзе поспех ці не — што ж... З таго часу, як выезд за мяжу стаў лягчэйшым, вялікая колькасць эстрадных артыстаў з былых савецкіх рэспублік кінулася "заваёўваць" Захад. Рынак так хутка "напоўніўся", што зараз нашых эмігрантаў нічым не здзівіш. Таму навічкі тут часта жорстка расчароўваюцца. Амерыканцы, як правіла, на канцэрты артыстаў эстрады з нашых краін не ходзяць. Ала Пугачова працавала з аншлагам у Карнэгі-Хол толькі адзін дзень. Потым яна выступала ў меншых залах. Першыя гастролі Валерыя Лявонцьева не атрымаліся. У другі свой прыезд ён спяваў, як большасць нашых эстрадных спевакоў, у рускім рэстаране. Мне здаецца, што большасць нашых эстрадных выканаўцаў значна пераацэньваюць сябе, адсюль фіяска, якое атрымалі нават такія славутыя, як Вайкуле і Агузарава...*

*А колькі канцэртаў славутых нашых эстрадных выканаўцаў не адбылося — не было гледачоў. Іншая справа з класічнай музыкай, балетам, цыркам. На эстрадзе ж найбольшай папулярнасцю карыстаюцца жанглёры, маніпулятары, мімы, акрабаты...*

***— А што вы можаце сказаць пра свае канцэрты ў Амерыцы?***

*— Я скончыў англійскі філфак, здаваў кандыдацкія экзамены па англійскай мове, у свой час працаваў перакладчыкам і выкладчыкам, так што выступаў па-англійску. На першым маім выступленні ў Балтыморы прысутнічала каля 50 чалавек. Потым, у Сан-Францыска, — каля 80.*

***— Ваша артыстычная спецыяльнасць даволі унікальная: як вы прыйшлі да яе, з чаго пачыналі?***

*— Я заўсёды марыў быць артыстам. Але пра жанр псіхалагічных вопытаў не толькі не думаў, але і не чуў. У наша Запарожжа ніколі не прыязджалі артысты гэтага жанру. У адной з амерыканскіх газет напісалі, быццам бы я — вучань Вольфа Месінга. Я ніколі не бачыў Месінга, хаця высока шаную гэтага майстра і ў чымсьці, можа быць, магу лічыць сябе яго прадаўжальнікам. Справа ў тым, што чытанне думак ніхто не ажыццяўляе, паколькі гэта звязана з вялікім напружаннем. Акрамя таго, трэба ўвесь час трымаць свае эмоцыі пад кантролем. Таму артысты перайшлі на больш просты спосаб здабычы грошай —гіпноз.*



***— Зараз у нас вельмі папулярныя розныя прадказальнікі, прадракальнікі. А вы ці можаце прадказаць будучыню?***

*— Я лічу, прагназістам можа быць кожны. Я раблю прадказанні па почырку — гэта псіхаграфалогія. Фрэналогіяй — прадказаннем лёсу па чэрапе — займаўся раней. Што ж датычыцца фізіягномікі, дык з ёю звязаны практычна ўсе мае выступленні. Калі вярнуцца да размовы пра амерыканскую публіку, усё гэта для іх, як мне здаецца, нецікава. Скажам, толькі тут, у Манхэтэне, ледзь не ў кожным квартале ёсць кабінеты астролагаў, рознага роду экстрасэнсаў, варажбіткі на картах, на кававай гушчы (дзякуй Богу, кавы ў Амерыцы пакуль хапае). Навошта ісці на канцэрт, калі спецыяліст ёсць у суседнім доме?*

***— Што для вас галоўнае: дэманстраваць свае магчымасці альбо забаўляць публіку?***

*— Хутчэй за ўсё — захапіць. Хоць, можа быць, зараз той час, калі нашых людзей якраз трэба забаўляць і адцягваць ад усіх тых праблем, якія наваліліся на іх.*

***— Апрача выступленняў, вы таксама пішаце пра эстрадных артыстаў, у тым ліку пра сваіх калегаў, якія ў свой час з'ехалі сюды, у Амерыку. Як склаліся іхнія лёсы? І наогул, як жывуць тут людзі мастацтва?***

*— Магчыма, я буду рэзкі, але абсалютна ўпэўнены: нашым артыстам тут, груба кажучы, рабіць няма чаго, асабліва тым, хто не ведае мовы. Нават цудоўны піяніст не зможа дабіцца анічога. Трэба мець апекуна, які ўкладзе ў цябе грошы. Але знайсці людзей, якія будуць ствараць табе імя, практычна немагчыма, таму што аўтарытэт нашага эстраднага мастацтва тут даволі нізкі. Так, Амерыка дае вельмі вялікія магчымасці для артыста. Тут няма тых праблем, якія ўвесь час непакояць нас дома. І перш за ўсё ў побытавым сэнсе. Як часта на гастролях нам няма дзе прыняць душ, адпрасаваць касцюм, зварыць ежу, памыць бялізну. А мы ж увесь час у дарозе, а здабыванне каўбасы, хлеба, тканіны, грыма, нават білетаў на самалёт — усё гэта вельмі стамляе.*

*Аднак агульная бяда маіх калег у тым, што яны не змаглі перабудавацца, не змаглі зразумець, што тут іншая сцэнічная школа, іншая дысцыпліна. Адзін з нямногіх, хто дабіўся поспеху, — папулярны ў мінулым эстрадны спявак Эміль Гаравец. Ён іграе ў тэатры на Брадвеі ў п'есе, якую напісаў па матывах твораў Якава Гордзіна "Шлоім-шарлатан". Таксама паспяхова выступае тут спявачка Аіда Вядзішчава. Гэтыя людзі змаглі стварыць нешта сваё, што цікавіць не толькі рускіх, але і амерыканцаў. Аіда працуе ў папулярным тэлешоу Джо Франкліна, піша песні. Ёй удзяляюць увагу журналісты, у тым ліку такія вядомыя, як Філ Донах'ю. Ён жа, дарэчы, вёў яе канцэрт у Карнэгі-Хол. Астатнія працуюць рэдка і нестабільна, па пяць-дзесяць канцэртаў на год. У большасці работа не звязана з мастацтвам: таксісты, асістэнты ў дантыстаў, прадаўцы... Зрэшты, у гэтым ёсць і свой плюс: у людзей, якія заняты не творчай працай, фармуецца свая пазіцыя, яны лепш спазнаюць жыццё простых людзей. Магчыма, таму набылі такую папулярнасць песні Токарава, Шуфуцінскага, Дняпрова — яны прайшлі гэтую школу.*

Так, для нашых дамарослых мадон і майклаў джэксанаў ёсць, у выпадку няўдачы, і іншыя, дастаткова рамантычныя прафесіі, скажам, заклікаць званочкам прахожых у магазіны альбо разносіць піццу. Нядаўна тут па праграме АВС паказвалі вялікую перадачу "Сэкс у Савецкім Саюзе". Агульнае даволі-такі прыгнятальнае ўражанне ўзмацніў сюжэт нейкай "забойнай" маскоўскай рок-групы. На эстрадзе крыўляліся жудасна размаляваныя, нячэсаныя хлопцы і напаўраспранутыя дзяўчаты. Дваццацігадовы амерыканец, які разам са мной глядзеў тэлевізар, з пагардай кіўнуў у бок экрана і здзіўлена спытаў: "І гэткая дзяшоўка ў вас праходзіць?"

... Мабыць, пытанне аб заваяванні нашай эстрадай Амерыкі яшчэ доўга будзе "адкрытым".

**Аляксандр РОСІН**

Нью-Ёрк — Мінск


КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты "Культура"

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.

Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.





Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

